● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

10 кастрычніка 1996 г. чацвер, № 245 (23048)



# ЗВЯЗДА

## ЖАНЧЫНЫ ВЫХОДЗЯЦЬ НА «ВЯЛІКУЮ ДАРОГУ»

**Непрыемны сюрпрыз чакаў расіяніна ў гасціннай Беларусі. Не дзіўна, што пасля ўсяго, што з ім адбылося, ён паступіў у Бабруйскую гарадскую бальніцу ў стане моцнай дэпрэсіі. Аднак аб усім па парадку.**

Не ведаем, якія справы прывялі жыхара Маскоўскай вобласці ў нашу рэспубліку (хутчэй за ўсё камерцыйныя), аднак са спадарожнікамі яму, шчыра кажучы, не пашанцавала. Праязджаючы ў 20 гадзін непадалёку ад Асіповіч, ён меў неасцярожнасць спыніцца і падабраць двух жанчын, якія папрасілі падвезці іх да Гомеля. Незаўважна «Аўдзі» госця ўехала ў Бабруйскі раён: тут і пачаліся прыгоды. Па слушнай прычыне жанчыны ўгаварылі расіяніна прыпыніць машыну, пасля чаго без размоў ударылі яго па галаве чымсьці цяжкім і прыставілі да скроні пісталет. У той момант, калі аўтамабіль спыніўся, адна з сімпатычных пасажырак зрабіла ў прадплечча вадзіцеля ўкол, пасля чаго апошні страціў прытомнасць.

Прачнуўся ён толькі на наступны дзень. Зразумела, і жанчын, і аўтамабіля да гэтага часу след прастыў. Акрамя гэтага, пацярпеўшы недалічыўся чатырох тысяч долараў, 500 тысяч расійскіх рублёў і ўсіх дакументаў. Было ад чаго ўпасці ў дэпрэсію...

Па нашай інфармацыі, пошук рабаўніц пакуль плёну не прынёс.

**Ігар ГРЫШЫН, Пётр РАБКАВЕЦ.**

## 20 БЕСПРАЦОЎНЫХ НА ВАКАНСІЮ

**За мінулы верасень афіцыйны статус беспрацоўнага атрымалі больш як паўтары тысячы нашых грамадзян, а ўсяго іх колькасць на сёння дасягнула 184.963 чалавекі, альбо 3,33 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва краіны. Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўю складаў на 1 кастрычніка прыкладна 140 тысяч рублёў.**

Найбольш складаная сітуацыя ў Гродзенскай, Мінскай і Гомельскай абласцях, дзе без работы сёння застаецца 4,13, 4,08 і 4,04 працэнта ўсяго эканамічна актыўнага насельніцтва. Лепшыя, чым дзе-небудзь, справы ў Мінску — 1,93 працэнта. Зрэшты, гэтыя лічбы даволі ўмоўныя. Бо не сакрэт: у шэрагу гарадоў (Навалукомль, Смаргонь, Скідаль, Салігорск, Заслаўе, Вілейка і г. д.) узровень афіцыйна зарэгістраванага беспрацоўя перавышае сярэднерэспубліканскі ў 2-3 разы. Да таго ж нельга спісваць з рахунку і так званае скрытае беспрацоўе, якое, паводле ацэнак спецыялістаў службы занятасці насельніцтва, толькі ў прамысловасці дасягае зараз 20 працэнтаў.

У сярэднім па краіне на адно свабоднае працоўнае месца прыпадае па дзесяць беспрацоўных, а на Брэстчыне і Міншчыне кан'юнктура рынку працы яшчэ горшая — па 20 беспрацоўных на адну вакансію.

**Сяргей ГРЫБ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 409
### АБ АДТЭРМІНОЎЦЫ АД ПРЫЗЫВУ НА ВАЕННУЮ СЛУЖБУ ПРАКУРОРСКІХ РАБОТНІКАЎ

У мэтах умацнення барацьбы са злачыннасцю і замацавання кадраў у органах пракуратуры **пастанаўляю:**

1. Прадаставіць пракурорскім работнікам у 1997-1998 гадах адтэрміноўку ад прызыву на тэрміновую вайсковую службу і ваенную службу афіцэраў запасу.

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЕНКА.**

9 кастрычніка 1996 г., г. Мінск.



**На палях калгаса «Перамога» Пухавіцкага раёна завяршаецца ўборка бульбы. Адначасова тут паспяхова вядуцца работы на плантацыях ільну. Калгаснікам дапамагаюць шэфы з Мінскага мясаперапрацоўчага завода.**

**Не самы лепшы час сваёй гісторыі перажывае цяпер калгасная вёска. Але ў «Перамозе» глядзяць у будучыню з аптымізмам: не спыняюць будаўніцтва, дапамагаюць вясковым пенсіянерам, шмат увагі ўдзяляюць забеспячэнню харчаваннем школьнікаў. Механізатар Мікалай Іванавіч УСАЎ (на здымку) — адзін з тых, хто добрасумленнай працай умацоўвае гаспадарку. У гэтыя дні ён заняты на бульбяных палетках, летам шчыраваў на жніве, вясною вызначаўся на сяўбе.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

***Паважаныя чытачы!***

***На вашы пытанні адкажа міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ***

Сёння насельніцтва, кожны жыхар пасобку шукаюць адказы на многія і многія пытанні. І, як правіла, людзі, перакананы ў тым, што дзяржава павінна дапамагаць у вырашэнні ўсіх іх клопатаў.

Якія абавязкі мы ўсё ж дарэмна ўскладаем на дзяржаўныя плечы? Наколькі трывалая сёння заканадаўчая база для кожнага з нас пасобку? На вашы пытанні па гэтых і іншых праблемах **11 кастрычніка з 11 гадзін да 12.30** па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92 адкажа міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Вольга Браніславаўна Даргель. Папярэдне пытанні можна задаваць па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51. Звяртайцеся таксама і пісьмова.

## ВЯЛІКІ САВЕТ АГРАРНІКАЎ

**На базе Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі 9 кастрычніка адбылася рэспубліканская нарада работнікаў аграрнага комплексу.**

У яе рабоце прынялі ўдзел перадавыя механізатары, жывёлаводы, паляводы, спецыялісты і кіраўнікі гаспадарак, раённых і абласных арганізацый, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, перапрацоўчых і абслугоўных галін, прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання, іншых міністэрстваў і ведамстваў, вучоныя, старшыні раённых і абласных выканкомаў, адказныя работнікі Кабінета Міністраў і Адміністрацыі Прэзідэнта, міністры. У горад, дзе дзейнічае вядомая ў Беларусі сельскагаспадарчая акадэмія, прыехала каля 800 чалавек.

На нарадзе разгледжаны папярэдныя вынікі сельскагаспадарчага года і абмеркаваны задачы па далейшай інтэнсіфікацыі вытворчасці, павышэння канкурэнтаздольнасці прадукцыі беларускіх палёў і фермаў на ўнутраным і знешнім рынках. З дакладам выступіў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір. Ён падкрэсліў, што гэты год стаў пераломным у сельскай гаспадарцы. Прыпынена зніжэнне вытворчасці. А ў паляводстве дасягнуты і пэўныя поспехі. У рэспубліцы сабрана па 25 цэнтнераў збожжавых з кожнага гектара. Валавы збор іх у калгасах і саўгасах склаў 6 мільёнаў тон. А з улікам ураджаю фермерскіх і іншых гаспадарак — 6,5 мільёна. Гэта на 400 тысяч тон больш, чым летась. Паводле папярэдніх падлікаў, цяперашні валавы збор бульбы — 10—10,5 мільёна тон, што таксама больш чым летась. Грамадская жывёлагадоўля ў гэтым годзе лепш забяспечана кармамі. Ёсць пэўныя поспехі і ў вытворчасці малака і мяса.

Але ў аграпрамысловым комплексе яшчэ шмат недахопаў і нявырашаных праблем. Аб іх гаварылася і ў дакладзе, і ў выступленнях. Як падкрэслівалася, галоўны з недахопаў — высокі сабекошт сельскагаспадарчай прадукцыі і вялікія затраты на яе вытворчасць.

Вынікі нарады падвёў і выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

На нарадзе выбраны савет аграрнікаў, які будзе працаваць пры Кабінеце Міністраў рэспублікі.

**Мікалай Назаровіч, БЕЛТА.**

***ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК***

## СЕНАТАРАМ ТЫ МОЖАШ І НЕ СТАЦЬ. А ГРАМАДЗЯНІНАМ?..

**Учарашняе пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі можна ахарактарызаваць як палітычную перапалку з элементамі заканатворчасці. А разгарэлася страсці з-за выступлення напярэдадні Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі па беларускім тэлебачанні, дзе ён паведаміў аб існаванні 110 подпісаў дэпутатаў, якія пры ўмове пэўных змен праекта паправак і змяненняў у Канстытуцыю згадзіліся пайсці з Прэзідэнтам на кампраміс, падтрымаўшы яго настойлівае імкненне правесці агульнарэспубліканскі рэферэндум 7 лістапада.**

Пачаў тэму дэпутат Мечаслаў Грыб, які прапанаваў не застацца ў гэтай сітуацыі ўбаку і неадкладна разгледзець заяву Прэзідэнта, унёсшы адпаведнае пытанне ў парадак дня сесіі. Яго падтрымалі Уладзімір Нісцюк і прадстаўніцы фракцыі партыі камуністаў Алена Скрыган,

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## КІЦЕЖ

*«Куды нас кліча вабны, нетутэйшы, Падводны благавест царквы»*
Максіміліян ВАЛОШЫН



***Машына, рыпнуўшы коламі, спынілася каля неверагоднага жылля ў выглядзе капы саломы з адчыненымі ўнутр дзверцамі. За імі, паклаўшы лапы на капот, скавытала мноства сабак... Так працягвалася дзесяці хвілін пяць—сем. Потым з'явіўся адзін з гаспадароў, падышоў да машыны з выразным пытаннем у вачах: маўляў, чаго патрэбна, людзі? Так для мяне пачалося знаёмства з загадкавым пасельнікам айца Аляксея.***

(Заканчэнне на 3-й стар.)

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка даў станоўчую ацэнку Звароту 110 дэпутатаў, якія складаюць большую частку Вярхоўнага Савета Беларусі, накіраванаму на пошук разумнага кампрамісу па стварэнню бесканфліктных умоў правядзення ўсенароднага рэферэндуму 7 лістапада 1996 г., ініцыяванага кіраўніком дзяржавы.**

**Прэзідэнт Беларусі выказаў цвёрдую ўпэўненасць у тым, што ў цяперашняй складанай сітуацыі канстытуцыйнага крызісу захаванне грамадскай і палітычнай стабільнасці з'яўляецца галоўнай задачай усіх структур дзяржаўнай улады.**

**Шлях да кампрамісу вызначаны. Прэзідэнт падрыхтаваны да дыялогу з Вярхоўным Саветам. Ці падрыхтавана да кампрамісу астатняя, меншая частка парламента?**

## Зварот дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі

Вельмі паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

Разглядаючы апублікаваны Вамі праект змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, які выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, які імкненне захаваць вырашэнне наспелых канстытуцыйных праблем на аснове прамога волевыяўлення народа, лічылі б мэтазгодным, каб у гэтым праекце былі ўлічаны наступныя прапановы:

1. Артыкул 143 праекта неабходна выкласці ў рэдакцыі, якая прадстаўляе дэпутатам Вярхоўнага Савета цяперашняга склікання магчымасць самастойнага фарміравання парламента ў пераходны перыяд.

Артыкул 143 прапануем выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 143. У месячны тэрмін з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь фарміруе з свайго саставу Палату прадстаўнікоў і Сенат. Частка саставу Сената прызначаецца Прэзідэнтам у парадку, прадугледжаным артыкулам 91 гэтай Канстытуцыі. Пры гэтым усе дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь захоўваюць свае паўнамоцтвы на працягу тэрміну, прадугледжанага гэтай Канстытуцыяй, і ўваходзяць, адпаведна, у Палату прадстаўнікоў ці Сенат. Колькасць сенатараў не можа перавышаць вызначанага Канстытуцыяй саставу Сената».

2. Неабходна ўдакладніць частку другую артыкула 91 праекта, прадугледзеўшы ў ёй, што Прэзідэнт прызначае толькі 8 сенатараў: па аднаму ад кожнай вобласці і горада Мінска і аднаго сенатара — ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Прапануемы варыянт у большай ступені, чым апублікаваны праект, адпавядаў бы агульнапрынятай практыцы фарміравання верхніх палат парламентаў замежных краін.

3. Улічваючы тое, што кантроль за выкананнем бюджэту традыцыйна, і гэта пацвярджаецца практыкай многіх краін, з'яўляецца функцыяй парламента, лічым абавязковым прадугледзець прызначэнне Прэзідэнтам старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю толькі са згоды Сената.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# СЕНАТАРАМ ТЫ МОЖАШ І НЕ СТАЦЬ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

але апошняя канкрэтызавала сваё выказванне. У прыватнасці, яна настойвала на тым, каб дэпутаты вярнуліся да разгляду Пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» і шляхам тайнага галасавання бюлетэнямі перагледзелі пункт, у якім ідзе гаворка пра дату правядзення рэферэндуму. Прычым зрабіць гэта, на яе думку, трэба было неадкладна. Такая прапанова мела пад сабой пэўную глебу, паколькі частка дэпутатаў была здзіўлена вялікай колькасцю сваіх калег, якія падпісалі зварот да Прэзідэнта, хаця да гэтага займалі іншую пазіцыю. На гэтай падставе некаторыя дэпутаты не выключалі, што частка подпісаў іх калег была здабыта шляхам запалохвання, вымагання і куплі — адным словам, шляхам «выкручвання рук» асобным парламентарыям з боку выканаўчай улады. Гэта пацвярджала і даволі неакрэсленая пазіцыя большасці «падпісантаў», якія вырашылі адмаўчацца у час абмеркавання пытання. Адстойвалі сябе хіба што толькі вядомыя прыхільнікі Прэзідэнта з фракцыі «Згода».

Наогул, уся гісторыя са зборам подпісаў, як высветлілася падчас сесіі, ахутана туманам. У некаторых дэпутатаў складвалася ўражанне, што зварот рыхтаваўся тайна, подпісы збіраліся за спінамі як кіраўніцтва парламента, так і тых дэпутатаў, якіх выканаўчая ўлада лічыць «чужымі» і ненадзейнымі. Аб гэтым сведчыць хоць бы тое, што тэксту звароту ўчора не было нават у Прэзідыума, аб чым і паведаміў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. Змест ведалі толькі тыя, хто зварот падпісаў. Гэта і непакоіла астатнюю частку парламента, якой было неабыякава, якія справы робяцца ад імя ўсяго Вярхоўнага Савета. Тым часам, калі зварот не быў размножаны для дэпутатаў, яго тэкст быў распаўсюджаны па рэдакцыях сродкаў масавай інфармацыі.

Алену Скрыган адкрыта падтрымалі тыя, хто не падпісваў звароту. У прыватнасці, Вольга Абрамава, Анатоль Лябедзька. Дарэчы, апошні заявіў, што ў дзевяностыя гады вяртаецца атмасфера трыццатых, калі пад пагрозамі людзі нават сваіх родзічаў называлі ворагамі народа. А Аляксандр Бухвостаў наогул прапанаваў пачаць збор подпісаў для аб'яўлення імпічменту Прэзідэнту. Некаторыя дэпутаты прапаноўвалі не разглядаць пытанне без прадстаўнікоў Цэнтрвыбаркома і Канстытуцыйнага суда (маўляў, калі мы і перанясём дату рэферэндуму з 24 на 7 лістапада, ці гатова будзе да гэтага Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў?). Выступілі і некаторыя з тых, хто падпісаў зварот, заявіўшы, што рабілі гэта свядома. Адным словам, быў прадстаўлены ўвесь спектр думак. Астудзіць пыл выступаючых паспрабаваў Генадзь Карпенка, які прапанаваў не звяртаць увагі на словы Прэзідэнта, а вярнуцца да заканатворчай дзейнасці. У выніку было даручана разгледзець гэтае пытанне Прэзідыуму і пасля перапынку выступіць з канкрэтнай прапановай. Да перапынку ж дэпутаты паспелі абмеркаваць некалькі артыкулаў законапраекта, які прадугледжвае ўнясенне змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь».

Можна было здагадацца, што незалежна ад вынікаў пасяджэння Прэзідыума пасля перапынку страсці разгарацца з новай сілай. Так яно і здарылася. Тым больш, што на пасяджэнні Прэзідыума было прынята рашэнне прапанаваць сесіі ўключыць у парадак дня пытанне аб унясенні змяненняў у пастанову ад 6 верасня. За гэта не прагаласавалі толькі Юрый Малумаў і Уладзімір Канаплёў, якія прадстаўляюць фракцыю «Згода». Аднак, нягледзячы на доўгія спрэчкі прыхільнікаў і праціўнікаў гэтай ідэі, сітуацыя «статус-кво» захавалася. Уключыць у парадак дня сесіі прапанову Алены Скрыган, падтрыманую Прэзідыумам, не ўдалося: за гэта прагаласавалі толькі 69 дэпутатаў. Парламент адначасова не падтрымаў і альтэрнатыўнай прапановы: уключыць гэтае пытанне ў парадак дня сесіі, але разгледзець яго толькі пасля выступлення Прэзідэнта, якое адбудзецца ў Вярхоўным Савеце 10 кастрычніка а 16 гадзіне. За гэта прагаласавалі толькі 75 парламентарыяў. Такім чынам, не прыйшоўшы да канкрэтнага выніку, парламент зноў вярнуўся да разгляду законапраекта, які датычыцца бюджэтнай сістэмы нашай краіны.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ДАПАМОГА ДЗЯРЖАВЫ — ПА КАНКРЭТНАМУ АДРАСУ

Выконваючы распараджэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб аказанні матэрыяльнай дапамогі мнагадзетным сем'ям» і «Аб аказанні адзінокім пенсіянерам і інвалідам, якія маюць у гэтым вострую патрэбу, аднаразовай дапамогі для нарыхтоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і паліва», Міністэрства сацыяльнай абароны правяло абследаванне 121.553 пажылых і хворых людзей, якім неабходна такая дапамога. На яе аказанне выдзелена 36,5 мільярда рублёў. Вызначэннем канкрэтнага памеру дапамогі, а яна пастаўлена ў залежнасць ад матэрыяльна-бытавога становішча кожнага пенсіянера і інваліда, тэрмінаў яе выплаты займаюцца спецыяльныя камісіі, створаныя ў гарадах і раёнах.

Кабінет Міністраў праінфармаваў Адміністрацыю Прэзідэнта, што па стану на 1 верасня дапамогу атрымалі 63.975 малазабяспечаных грамадзян на суму 20,2 мільярда рублёў (52,6 працэнта).

Колькасць школьнікаў у шматдзетных сем'ях, якія атрымалі матэрыяльную дапамогу, дасягнула 150.565 чалавек — 65 працэнтаў. Сума затрат на гэтыя мэты — 71,4 мільярда рублёў.

Найбольш актыўна ў гэтым напрамку працуюць камісіі ў Гомельскай, Брэсцкай і Магілёўскай абласцях, дзе працэнт выдзеленых на аказанне дапамогі сродкаў вышэйшы, чым у сярэднім па рэспубліцы.

**БЕЛТА.**

## УВОЗ У РЭСПУБЛІКУ ЛЯКАРСТВАЎ БУДЗЕ СТРОГА КАНТРАЛЯВАЦЦА

Кабінет Міністраў прыняў пастанову, накіраваную на абарону інтарэсаў беларускіх вытворцаў фармацэўтычнай прадукцыі і ўпарадкаванне яе ўвозу на тэрыторыю рэспублікі.

Гэтым дакументам устаноўлена, што мытнае афармленне завезеных для свабоднага абарачэння на мытную тэрыторыю Беларусі лекавых сродкаў і фармацэўтычных субстанцый, аналагічных тым, якія выпускаюцца ў рэспубліцы, праводзіцца пры ўмове прад'яўлення заяўнікам дазволу Міністэрства аховы здароўя, узгодненага з камітэтам «Белбіяфарм». Апошнім даручана ў месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць адпаведнае палажэнне аб парадку выдачы дазволаў на ўвоз лекавых сродкаў і фармацэўтычных субстанцый.

**БЕЛТА.**

## У МІНСК ПРЫБЫЎ РАСІЙСКІ МІНІСТР

9 кастрычніка, у другой палове дня, у Мінск прыбыў міністр Расіі па супрацоўніцтву з дзяржавамі—удзельніцамі СНД Аман-Гельды Тулееў. Чакаецца, што ў ходзе двухдзённага візіту расійскі міністр сустрэнецца з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром, сваім калегам Іванам Бамбізам, выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэнем. У праграме знаходжання — наведванне дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна дакладнага машынабудавання «Планар». Чакаецца, што па выніках перамоў будзе падпісана двухбаковае міжурадавае пагадненне аб пастаўках прыродных алмазаў.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

# ЗВАРОТ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

4. Тэрмін паўнамоцтваў парламента, зыходзячы з практыкі, якая склалася ў Рэспубліцы Беларусь, трэба было б устанавіць на пяць гадоў, лічачы яго з моманту ўступлення ў сілу рашэнняў рэспубліканскага рэферэндуму.

5. У мэтах узмацнення парытэтных асноў у фарміраванні Канстытуцыйнага суда і зыходзячы з яго ролі ў сістэме дзяржаўнай улады прапануем, каб старшыня Канстытуцыйнага суда прызначаўся Прэзідэнтам са згоды Сената з ліку членаў Канстытуцыйнага суда.

6. Лічым таксама неабходным, каб у праекце змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю было прадугледжана права старшынь палат Нацыянальнага Сходу склікаць у выпадку неабходнасці нечарговыя пасяджэнні палат.

Улік названых і іншых прапаноў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь дазволіў бы зрабіць праект змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, які выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, больш збалансаваным з улікам інтарэсаў усіх галін дзяржаўнай улады і, безумоўна, больш дэмакратычным.

Пры станоўчым вырашэнні гэтага пытання мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета, падтрымаем ініцыятыву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па правядзенню рэспубліканскага рэферэндуму 7 лістапада 1996 г., адпаведна змяніўшы раней прынятыя Вярхоўным Саветам рашэнні па гэтаму пытанню.

**ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА**

**Азарчанкаў А. М., Аляксандраў В. М., Александровіч У. А., Аляксеенка Г. П., Ананьеў Р. У., Анікееў М. М., Астапчанка Ю. Л., Бань М. В., Бялоў М. А., Белякоў У. Л., Бяльковіч В. Ф., Біч А. М., Біккінін Б. С., Блюднік А. Д., Бабкоў А. К., Бруцкі В. П., Бусел М. Д., Бурак В. К., Вінакурава М. М., Валжанкоў Р. М., Волкаў У. А., Вараніцкі Р. Г., Варошнін У. М., Гаргун В. С., Глухоўскі Л. В., Гаварушкін С. М., Гарбуноў А. А., Грыгор'еў У. В., Гукаў І. М., Дмухоўскі М. І., Драко В. У., Дубко А. А., Дубовік М. М., Дуніч М. У., Ягoраў У. Д., Янко Я. М., Завадскі А. А., Зайцаў П. К., Замкавенка М. М., Зданчук М. Р., Здабноў У. М., Зінчанка А. М., Ігнацішчаў Р. М., Калугін П. А., Камай А. С., Канашук І. П., Карпіевіч М. Ф., Кебіч В. Ф., Козыр А. В., Койда А. Я., Канаплёў У. М., Каратчэня І. М., Касцян С. І., Катляроў І. В., Красуцкі А. В., Кузьма А. Ф., Кулакоўскі Ю. А., Кулік В. В., Куцко М. В., Кучынскі В. Ф., Лапкоўскі О. М., Лектараў В. М., Ліўшыц С. Б., Ліпкін В. Ф., Лук'яновіч В. П., Луновіч А. Я., Любавіцкі В. В., Любезны М. І., Малахоўскі А. Я., Малафееў А. А., Малумаў Ю. Г., Мікалуцкі Я. П., Мініч В. У., Міргалоўскі Г. М., Міхадзюк В. А., Астапковіч М. У., Пасечнік В. У., Пашкевіч І. І., Плецюхоў У. А., Пабярэжын З. І., Пагарэльскі Л. В., Палачанін І. М., Пачэпка К. А., Пракошын У. Р., Прохарчык С. М., Пыжык В. С., Рачкоў Л. У., Рымарчык І. С., Ражко В. А., Разганаў А. І., Розынка П. М., Раманоўскі А. А., Рудэнка В. П., Румо А. В., Саковіч В. А., Самусева В. М., Свірыд А. У., Салаўёў А. М., Целебук Н. П., Цюцюноў А. Д., Хадневіч Т. М., Хрол В. П., Худая М. М., Шаршуноў В. А., Шпакаў С. Р., Шпілеўскі А. Ф., Юхімук В. Ф., Якабсан А. С., Якоўчык М. С., Яновіч А. А.**

# УРАД БЕЛАРУСІ, МВФ І СУСВЕТНЫ БАНК МЯРКУЮЦЬ ДАМОВІЦЦА Ў СЯРЭДЗІНЕ ЛІСТАПАДА

**На сходзе Савета дырэктараў міжнародных фінансавых арганізацый у Вашынгтоне, што праходзіў з 27 верасня па 5 кастрычніка, пытанне аб аднаўленні крэдыту «стэнд-бай» не ўзнімалася, паведаміў віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг на прэс-канферэнцыі.**

Віцэ-прэм'ер растлумачыў, што беларускі бок не выканаў некаторыя пункты пагаднення, у прыватнасці аб прыватызацыі. У дадатак да гэтага тэрмін дзеяння крэдыту ўжо скончыўся, а таму сёння неабходна пачынаць працэс перамоў па гэтым пытанні спачатку.

Падчас сустрэч з кіраўніцтвам Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка абмяркоўваліся перспектывы далейшага супрацоўніцтва. У полі зроку замежных крэдытораў знаходзілася Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года. Як адзначыў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Пётр Пракаповіч, у ацэнцы намаганняў беларускага боку па вываду краіны з эканамічнага крызісу прадстаўнікі Сусветнага банка і МВФ былі аднадушнымі і ў цэлым адобрылі праграму. Рознагалоссі ўзніклі толькі па пытанню метадаў яе рэалізацыі. Паводле слоў Пятра Пракаповіча, да сярэдзіны лістапада, калі Мінск наведае місія Сусветнага банка, будуць перапрацаваны некаторыя раздзелы праграмы і, пасля ўзгаднення з замежнымі экспертамі, прыняты як кіраўніцтва да дзеяння. Перапрацоўвацца, напрыклад, будуць артыкулы аб прыватызацыі, цэнаўтварэнні і курсе рубля. Што датычыцца ўстаноўленага курса беларускага рубля (15 тысяч 500 рублёў за 1 долар плюс павышальны каэфіцыент 1,2), то, па меркаванню спадара Пракаповіча, наша дзяржава заняла вельмі правільную палітыку і да канца бягучага года курс не зменіцца. Аднак рэфарміраванне неабходна. Тым не менш, рэалізаваць, як назваў Пётр Пятровіч, мару, каб курс беларускага рубля вызначаўся на міжбанкаўскай біржы, за 1-2 месяцы немагчыма. На стварэнне рэзерваў Нацыянальнага банка, змяншэнне адмоўнага сальда знешняга гандлю (звыш 800 мільёнаў долараў за 8 месяцаў) спатрэбіцца пэўны час. Першыя крокі ў вырашэнні гэтага пытання будуць зроблены да прыезду місіі ў лістападзе. Пытанне ўмяшання дзяржавы ў цэнаўтварэнне таксама будзе вырашацца з улікам меркавання замежных інвестараў. Тут, верагодна, узнікнуць складанасці, бо погляды на гэту праблему прама процілеглыя: эксперты фінансавых арганізацый лічаць, што дзяржаўнае ўмяшанне ў галіну цэнаўтварэння вялікае, урад жа Беларусі лічыць, што ўмешваецца мала.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі абверглі чуткі аб закрыцці прадстаўніцтва МВФ у Мінску, а таксама аб скарачэнні крэдытавання праектаў МВФ і сусветнага банка. Беларускі бок разлічвае на адкрыццё крэдытнай лініі па падтрыманню прыватнага прадпрымальніцтва.

*Жанна КАТЛЯРОВА.*

## У НАСТУПНЫМ ГОДЗЕ ЭКАНОМІКА РЭСПУБЛІКІ ПАЧНЕ РАЗВІВАЦЦА ПА-НОВАМУ

Прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і праект бюджэту рэспублікі на наступным год былі абмеркаваны 8 кастрычніка на пасяджэнні Кабінета Міністраў. Адкрываючы яго, Міхаіл Чыгір звярнуўся да ўсіх прысутных з просьбай дэталёва прааналізаваць усе палажэнні гэтых праектаў і падкрэсліў, што ад калектыўнай ацэнкі распрацовак у многім залежыць далейшае развіццё краіны. Кіраўнік урада адзначыў, што аналіз мінулагодніх аналагічных дэбатаў паказаў: нягледзячы на іх працягласць, не ўдалося паставіць заслон многім памылкам.

На пасяджэнні гаварылася аб затуханні крызісных з'яў у эканоміцы. Сярэднямесячны ўзровень інфляцыі знізіўся за восем месяцаў да 2,4 працэнта, тады як за такі ж перыяд мінулага года яна была амаль у шэсць разоў вышэйшай. Пачаў расці валавы ўнутраны прадукт, ёсць зрухі ў прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэтыя і іншыя паказчыкі ўлічваліся і пры падрыхтоўцы вынесеных для абмеркавання праектаў, якія маюць і шэраг прынцыповых асаблівасцей. Паводле слоў першага намесніка міністра эканомікі Уладзіміра Шымава, былі ўлічаны асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2000 года, а таксама правядзенне рэформаў на аснове спалучэння рынычных механізмаў і дзяржаўнага рэгулявання, грашова-крэдытнай і бюджэтна-падатковай палітыкі. На яго думку, эканоміка рэспублікі ў 1997 годзе пачне развівацца па-новаму — ад устойлівай стабілізацыі да ўмеранага росту. Але для гэтага, адзначыў Уладзімір Шымаў, павінна быць офарміравана адпаведная нарматыўна-прававая база, прыняты рашэнні па забеспячэнню збалансаванасці матэрыяльна-рэчавых і фінансавых прапорцый.

Сярод важнейшых макраэканамічных паказчыкаў прагназіруецца павелічэнне валавога ўнутранага прадукту на 5 працэнтаў, прамысловай вытворчасці — на 6, прадукцыі сельскай гаспадаркі — на 3,8, аб'ёмаў інвестыцый у асноўны капітал — на 10 і рэальных даходаў насельніцтва — на 5 працэнтаў.

Пры зніжэнні падатковага прэса прыкладна на 5,5 працэнта дэфіцыт бюджэту складзе каля 3,3 працэнта да валавога ўнутранага прадукту. Сумесная грашовая маса павысіцца да 64,6 працэнта. Гэта створыць пэўныя перадумовы для змяншэння неплацяжоў прадпрыемстваў, а таксама для актывізацыі інвестыцыйнай дзейнасці ў прыярытэтных галінах.

Прапанаваны праект бюджэту не дае магчымасці адлічаць з яго значныя сродкі на капітальнае будаўніцтва. У асноўным прадугледжваецца выдзяляць іх на завяршэнне аб'ектаў сацыяльнай сферы, аграпрамысловага комплексу, а таксама прадугледжаную праграмай ліквідацыю наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі.

Як адзначыў міністр фінансаў Павел Дзік, асноўнымі крыніцамі даходаў рэспубліканскага бюджэту па-ранейшаму застануцца падаткі. Адрозненне структуры даходнай часткі бюджэту ў тым, што з яго выключаны падаткі на паліва, нерухомую маёмасць, плацяжы за карыстанне прыроднымі рэсурсамі і зямлю, збор на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы. Да таго ж, падкрэсліў Павел Дзік, на 1997 год захавана сацыяльная арыентацыя расходаў з улікам змяненняў прынцыпаў фінансавай падтрымкі сацыяльнай сферы.

Прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця і праект бюджэту рэспублікі на 1997 год на пасяджэнні Кабінета Міністраў былі ў асноўным адобраны. Некаторыя іх палажэнні яшчэ трэба падкарэкціраваць з улікам заўваг і прапаноў.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### РАСІЯ ПАСТУПОВА СТРАЧВАЕ ВАЕННУЮ МАГУТНАСЦЬ

Злучаныя Штаты застаюцца найбуйнейшай сусветнай дзяржавай па ваеннай магутнасці. У той жа час узброеныя сілы Расіі слабеюць. Пра гэта паведаміў учора ў штогадовай справаздачы Міжнародны інстытут стратэгічных даследаванняў. Расійскія выдаткі на абарону скараціліся напалову ў параўнанні з 1992 годам і склалі 82 мільярды долараў. Хоць ваенныя магутнасці Расіі ўступаюць толькі ЗША, аслабленне яе арміі будзе працягвацца, гаворыцца ў справаздачы. Пра гэта сведчаць і вынікі вайны ў Чачні.

## СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

**Апошняя квадра 4 кастрычніка.**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Прп. Савація Салавецкага, Прп. Ігнація. К. Даніэлія, Льва, Марыі-Агнэлі.**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўночнаму захаду пройдуць невялікія дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 10—12, Гомелі, Магілёве — 11—13, Гродне, Мінску — 12—14, Брэсце — 13—15 градусаў.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі ўначы 11-га па ўсходу рэспублікі пройдуць невялікія дажджы; уначы і раніцай замаразкі да 0 — мінус 4. 11 кастрычніка ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях уначы — 1—6, удзень — 8—13, 12-га — 11—16 градусаў цяпла.

# ЦЭНТРВЫБАРКОМ ПРАПАНУЕ ПЕРАНЕСЦІ ДАТУ РЭФЕРЭНДУМУ З 24 ЛІСТАПАДА НА БОЛЬШ ПОЗНІ ТЭРМІН. ПРЫЧЫНА — НЕВЫКАНАННЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

9 кастрычніка адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па правядзенню выбараў і рэспубліканскіх рэферэндумаў, на якім аднагалосна было прынята сенсацыйнае рашэнне. Цэнтрвыбарком вырашыў звярнуцца да Вярхоўнага Савета з заявай аб тым, што пры правядзенні планавых мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да аб'яўленага на 24 лістапада ўсенароднага апытання парушаецца закон аб рэферэндуме, а таму Цэнтрвыбарком не можа гарантаваць захаванне заканадаўства падчас гэтых працэдур і звяртаецца з прапановай перанесці дату галасавання на больш познія тэрміны. Аб гэтым заявіў учора старшыня ЦВК Віктар Ганчар. Адтэрміноўка патрэбна для ўрэгулявання згодна з законамі планавых мерапрыемстваў па правядзенню рэферэндуму.

— Правядзенне рэферэндуму 24 лістапада ўжо немагчыма. Тым больш гэта немагчыма чыста тэхналагічна зрабіць 7 лістапада. Для гэтага трэба было б прымаць новы закон аб рэферэндуме, — заявіў Віктар Ганчар. — Парушэнні закона аб рэферэндуме будуць карацца па закону, аб чым заявілі прадстаўнікі пракуратуры.

Віктар Ганчар падкрэсліў, што ЦВК зрабіў мноства спробаў па выратаванню рэферэндуму, і калі парламент не здолее прыняць патрэбнае рашэнне, дык Цэнтрвыбарком не зможа афіцыйна прызнаць вынікі праведзенага з парушэннямі закона рэферэндуму, яго легітымнасць.

У чым сутнасць дапушчаных парушэнняў закона? Па-першае, няправільна створаны тэрытарыяльныя і ўчастковыя выбарчыя камісіі па правядзенню рэферэндуму. Яны, паводле азначэння В. Ганчара, фактычна створаны мясцовымі выканкомамі, а не адпаведнымі Саветамі ці іх прэзідыумамі, або іх утварэнне праведзена праз Саветы толькі фармальна. Па-другое, сарваны другі этап кампаніі па падрыхтоўцы рэферэндуму — складанне спісаў выбаршчыкаў, якія павінны рабіцца паводле новай формы. Але на сёння гэтая форма яшчэ нават не аддрукавана і не распаўсюджана. Па-трэцяе, як зазначыў Віктар Ганчар, не забяспечаны роўныя ўмовы для абодвух ініцыятараў рэферэндуму па агітацыі «за» і «супраць» выносімых на рэферэндум пытанняў. У прыватнасці, дзяржтэлерадыёкампанія не ўнесла своечасова свае прапановы на гэты конт. Намеснік кіраўніка гэтай кампаніі тлумачыць гэта чыста тэхнічнымі прычынамі.

*(Больш падрабязна — у наступным нумары.)*

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# КІЦЕЖ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.)

## ПЕРШЫЯ ЎРАЖАННІ

Перш за ўсё прызнаюся, што маё жаданне трапіць сюды насіла адценне своеасаблівай «цікаўнасці да экзотыкі», імкнення знайсці неверагодныя факты з жыцця неверагодных людзей. Першыя думкі пасля таго, як давялося даведацца ад знаёмых пра дзівакоў, якія пабудавалі недзе на Магілёўшчыне зямлянкі і наладжваюць свой побыт у адрыве ад свету, былі амаль малюнкамі з «Рабінзона Круза». Потым адразу прыпомніліся таксама і расійскія Лыкавы, якія ўразілі некалі ўвесь Савецкі Саюз сваім зыходам у тайгу. Захацелася зразумець адно: што з'явілася зыходным пунктам учынку, чаму людзі, кінуўшы кар'еры і сем'і, пайшлі ў зямлянкі?

Першы позірк на паселішча, а таксама расказы мясцовых жыхароў, прывялі да яшчэ большых сумненняў, бо гаварылі самае рознае — тое, што быццам бы на месцы былога хутара пасяліліся нейкія ледзь не ведзьмакі, ці, як казалі іншыя, фермеры...

...З зямлянкі паказаўся даволі высокі чалавек. «Айцец Аляксей», — сказаў Ілья (гэта ён падышоў да нас першым). Святар спачатку накіраваўся некуды ў іншы бок, пахадзіў між дрэў і толькі праз пэўны час цвёрдаю хадою пакрочыў да машыны.

## ШЛЯХІ ГОСПАДА НЕСПАЗНАНЫЯ...

Калі пачалася гаворка з айцом Аляксеем, адразу з'явілася ўражанне: словы, што ён вымаўляе, ідуць ад мяне, быццам бы ён чытае мне мае ж думкі, разгортвае старонку за старонкай гісторыю таго жыцця, да якога трэба прыйсці кожнаму з нас.

Святар нікольکі не здзівіўся майму з'яўленню, нават не спытаў пра мае намеры. «Не мы для вас, а вы для нас», — так сказаў ён адразу. Так лічыць чалавек, які ў свае 52 гады можа гадзінамі гаварыць пра Жыццё.

Хворы свет... Хворыя людзі, якім патрэбны дапамога, лячэнне, духоўнае ачышчэнне. Усе навокал хворыя...

«Не вельмі прыемна вяртанне да мінулага», — напісаў святар у адным са сваіх вершаў. Так, менавіта сустрэчы з эпізодамі ўласнага жыцця для яго азначаюць толькі адно — зноў адчуць усё тое, што адышло. Пра тое, што жыве дзесьці ў самых аддаленых кутках сэрца.

Для цяперашняга воіна Раці Сілы Паднябеснай (як вызначае сябе айцец Аляксей) мінулае прысутнічае толькі як доўгі шлях разумення ісціны. А быў ён (гэты шлях) вельмі і вельмі няпросты.

З дзяцінства засталіся малюнкі тых падзей, калі стаяў сённяшні святар блізка ад смерці. Бацька займаў даволі высокую ваенную пасаду, і па гэтай прычыне ўвесь час сям'і прыходзілася пераязджаць з месца на месца. Так у адзін з пералётаў самалёт, на якім яны ляцелі, нечакана пачаў падаць. Да таго ж і пры спыненні самалёт здрыгануўся і прама на хлопчыка паляцела вялізная скрыня. Выратаваў салдат, які падставіў у апошні момант сваю нагу.

Як свяшчэннік, сёння ён нікольکі не сумняваецца, што гэта быў своеасаблівы знак. Знак з будучыні.

Потым з ім зноў здарылася нешта незразумелае — восенню выпаў з гумавай лодкі, на якой плылі разам з бацькам. «Чамусьці адчуў нейкую незвычайную радасць, лёгкасць», — кажа айцец Аляксей.

Далей малюнкі ў калейдаскопе ягонага жыцця працягвалі складвацца даволі традыцыйна, як і належала сыну прывілеяванага бацькі. Прыходзілася сябраваць і з міністэрскімі дзецьмі — лепшы сябар, напрыклад, у яго быў сын міністра нафтавай прамысловасці. Прысутнічаў на так званых «крамлёўскіх абедах», назіраючы ўсё тое, што адпавядае прыметам жыцця вялікіх уладароў.

Тады ў ім пачаў расці бунт супраць таго, што яго акружала. Ягоны бунт знаходзіў сваё адлюстраванне ў поўным адхіленні і адмове ад тых умоў, у якіх знаходзіўся. Няхай маўчанне, няхай не ўчынкі, а ўсё ж супраціўленне. «Душой заўсёды цягнуўся да тых, хто спрачаецца», — успамінае айцец Аляксей.

Першае дысідэнцтва, самае радыкальнае, бескампраміснае, лічыць ён, нарадзілася менавіта сярод паслягаеннай «залатой моладзі». Гэта быў інстынктыўны, глыбокі пратэст.

Выхаванне будучага святара зайшло ў яўны тупік, безвыходны крызіс, калі аднойчы ў размове з дзяўчынай ён не змог адрозніць Апалона ад Хрыста і нават не ведаў нічога пра Евангелле ад Матфея. Адразу пачаў ліхаманкава запаўняць прабелы сваіх ведаў праз вывучэнне... атэістычнай літаратуры, твораў свяшчэннікаў, якія адракліся ад царквы і ператварыліся ў народных камісараў.

Духоўны крызіс («я ўжо думаў, як дажыць тое жыццё», — гаварыў ён у 22 (!) гады), бунт, супраціўленне няпраўдзе, у якой існаваў, прывялі яго да царквы. Па волі Госпада накіраваўся на шлях спасціжэння і вырашэння для сябе мэты існавання. Яе ён знайшоў, калі адрокся ад дабрабыту і кар'еры і прыйшоў да хрысціянства. Без вяртання да мінулага, да былых спакус...

Хаця, напэўна, спакусы да вяртання заўсёды заставаліся. У тых жа размовах з бацькам (пасля таго як аб'явіў таму сваю волю) — які, нарэшце, прызнаўся сыну пра сваё жаданне ў маладосці стаць свяшчэннікам. «Для мяне гэта было сапраўдным адкрыццём», — казаў айцец Аляксей. Таксама з'явіліся «прыметы былога» для святара ў вагоне поезда ў выглядзе п'яных афіцэраў. Якраз у той час, калі адбываўся вывад савецкіх войскаў з Германіі, айцец Аляксей, які ехаў на пострыг, трапіў, па яго словах, «у вярцеп». «Сядайце да нас, святы айцец, — прапанавалі Аляксею, — можа вып'еце, а то ў нас для вас і дзяўчына ёсць», — так пачалося знаёмства. Святар знайшоў у сабе сілы зразумець і растлумачыць. Сказаў такімі словамі, што здрыганулася нешта ў душы і сэрцы тых людзей...

Жыровіцкі манастыр... Менавіта сюды прывялі яго шляхі Гасподнія. Тут айцец Аляксей надоўга не спыніўся — разышліся погляды на сутнасць манаства («будзь такім, як мы», а ён не мог). Пасля — прыход у калгасе «Прагрэс» Гродзенскай вобласці. Актыўная дзейнасць святара атрымала вялікую папулярнасць не толькі сярод мясцовых жыхароў, якія пацягнуліся ў праваслаўную царкву (гэта на Гродзеншчыне!), а і далёка за межамі вобласці. Гэта многім прадстаўнікам улады не падабалася.

І яго «закінулі». У далёкі глухі прыход на Магілёўшчыне, дзе, мабыць, толькі дзве-тры бабулькі маглі нешта зразумець у ягоных пропаведзях. Удар для айца Аляксея быў, вядома, вялікі. Але прыняў ён перыпетыі свайго лёсу з зайздроснай упэўненасцю ў тым, што гэта і ёсць воля Божая. «Апошняя красамоўная праява гэтай волі — калі каленам пад зад, — жартуе святар, — тут ужо і нельга не зразумець, куды табе ісці далей па жыццёвым шляху».

Гэта ён зразумеў яшчэ спачатку, амаль трыццаць гадоў таму, калі малады бунтар пакінуў свет маны, свет няпраўды і жорсткасці, прыйшоў да царквы. Выказаўшы такім чынам свой пратэст, ён вырашыў правесці своеасаблівы эксперымент — падпарадкоўвацца, толькі падпарадкоўвацца і скарыцца. Скарыцца нават тады, калі ўрачы аб'яўляюць, што жыць табе засталося паўгода (прызналі лейкоз). Менавіта па гэтай прычыне дзесяць гадоў таму ён пакінуў прыход і пачаў сапраўднае манаскае жыццё, жыццё пустэльніка. У адзіноце і чысціні, каб несці свой крыж да канца. Іншыя рабілі кар'еру, а ён...

## ВУЧНІ

Яны з'явіліся нечакана. Браты і сёстры ў Хрысце. Прыйшлі, каб раздзяліць разам з айцом Аляксеем вялікую радасць ушанавання Бога. Штодзённага ўшанавання і спасціжэння.

Зараз вучняў чацвёра, іх шляхі да веры даволі розныя. Так, Алег, напрыклад, скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут, меў прыбытковае месца працы, сям'ю (жонка і трое дзяцей). Валодзя — былы афіцэр «цікавых войскаў» (як ахарактарызаваў яго айцец Аляксей). Ілья — у мінулым быў навучэнцам ваеннага вучылішча. Лена — сапраўды хворы чалавек, раней яна вельмі пакутавала ад нервовага захворвання, менавіта хвароба, мабыць, і паставіла яе па-за грамадствам, прывяла да царквы.

Вось як бы кароткі пералік лёсаў гэтых чатырох чалавек. Што ж стаіць за скупымі радкамі? Катастрофа (таму што разбураліся сем'і) — верагодна... Жорсткасць у адносінах да родных — магчыма...

«Ужо толькі за тое, што я не ствараю сем'і, а разбураю іх, мяне трэба чвартаваць», — гаворыць айцец Аляксей.

Але калі нехта прыйшоў да яго, — значыць, як лічыць святар, яго прывёў менавіта Бог, таму што няверуючых увогуле няма. У гэтым айцец Аляксей проста ўпэўнены. Усе мы верым, спадзяёмся, любім. Ва ўсіх нас у канчатковых намерах толькі дабро.

Усе людзі могуць, праўда, цярпець веруючых, а не цярпець з веруючымі. Для кожнага калі-небудзь настае такі момант (як, напрыклад, у маладога Аляксея), момант выбару. Спачатку ў гэтым — чыстая цікаўнасць і разам з тым выказванне пратэсту, пошук ідэальнага грамадства. Потым ужо пры засвойванні пэўнай часткі духоўных ведаў, адбываецца разуменне: прыйсці да Бога можна толькі творцам. Творцам уласнага Евангелля.

Тым, хто шукае, патрэбна дапамога. Таму і дазваляе, відаць, айцец Аляксей жыць побач з сабою такім шукальнікам. Іх ён успрымае з падвоеным пачуццём: радасці — за тое, што людзі знаходзяцца ў пошуку, і страху — бо духоўная адказнасць (самая цяжкая) кладзецца на плечы святара.

Адбываецца сапраўдная драма: з аднаго боку — разбураныя сем'і, кар'ера, з другога — імкненне чалавека да Бога, ахвяраванне дзеля гэтага ўсім. Манаства — цяжкі лёс, лёс для выбраных. Гэта цяжка зразумець. «Як сляпым нельга растлумачыць бачную прыгажосць свету, а глухім расказаць пра гукі, так недасведчаным нельга распавесці пра духоўны свет, пра нашыя ідэалы», — лічыць айцец Аляксей.

Ён дзеліцца з усімі сваім духоўным набыткам. Шчодра. Таму што сам прайшоў адрэзак вялікага шляху спасціжэння. Які, нарэшце, выбралі тыя чацвёра, што прыйшлі да святара. Наперадзе ў іх самае вялікае выпрабаванне — выпрабаванне часам.

Вядома, што шляхі Госпада непазнаныя, куды павядуць яны брацію айца Аляксея далей — ведае толькі Усявышні (так, пайшоў нядаўна ад яго айцец Васілій, затое прыйшоў Ілья).

Цяжка, вельмі цяжка прайсці ад прысуду да спробы зразумець. Таксама цяжка несці крыж манаства сярод людзей, натыкаючыся на нянавісць і насмешкі. Гэта тайна, якая патрабуе адзіноты. Можа таму, калі з'явілася магчымасць (райвыканком нечакана згадзіўся выдзеліць пустэльнікам на месцы былога хутара ўчастак пад будоўлю, а таксама дзесяць гектараў пашы пад засеў), пайшлі пяцёра ў зямлянку. У свой падземны Кіцеж. Уступіўшы ў змаганне з прыродай.

## ЗЯМНОЕ

Такім чынам, пачалося будаўніцтва — пабудавалі зямлянку, даволі цёплую і ўтульную, тут можна нават зімаваць (што айцец Аляксей і рабіў мінулагоднімі маразамі). Усё яе абсталяванне складаецца з драўлянага палка, дзе размяшчаецца нехта з паслушнікаў (зараз гэта быў Ілья, а яшчэ трое працавалі ў іншым месцы). У другой палавіне, адгароджанай бярвёнамі, стаіць раскладушка самога святара, прыбіты дзве паліцы з кнігамі, прыкручаны вайсковы радыёпрыёмнік, на покуце вісіць ікона. А таксама стаіць самае вялікае багацце, якое сабраў за ўсё жыццё айцец Аляксей, — тры скрыні з кнігамі і рукапісамі.

Акрамя зямлянкі сярод дрэў стаіць хлеў, які сабралі, дарэчы, па старажытных чарцяжах. Тут трымаюць коз і быка Бышку. Далей — два вуллі, праўда, пустыя. «Але хутка будзе і мёд», — запэўніў святар.

Ежу вараць сабе на вогнішчы, ля якога зроблены драўляны стол. Адсюль адкрываюцца далягляды — на невялікую запруду, лясок, навакольныя палеткі. Дзе ёсць, дарэчы, і ўчасткі пустэльнікаў. Што тут толькі ні расце — лягчэй назваць, мабыць, тое, чаго няма.



Хатнія жывёлы — сапраўдныя карміцелі для пустэльнікаў. Акрамя коз і быка тут маюцца таксама каровы і коні. Айцец Аляксей прадугледзеў яшчэ раней сучасныя недарэчнасці з бензінам, таму і завялі конную цягу, якая ніколі не падвядзе.

Шмат тэхнікі. Збіралі яе літаральна з нічога, са звалак. Гэта заслуга Алега. У ягонай майстэрні з усяго мноства інструментаў, прыдуманых чалавецтвам, толькі зварка ды прыстасаванне для пілавання. І нічога болей. Але з іх дапамогай сабралі і «трактар» для бычынай і конскай цягі, і розныя прыстасаванні для сяўбы, млын, малатарню. А таксама мудрагелістыя замкі для хлява, якія прынеслі б славу лепшым вынаходнікам. Для чаго яны? Час зараз такі, на коней вялікі попыт, ды і людзі зараз сталі крыху іншыя, чым раней, — могуць і ўкрасці.

Уражвае дах над майстэрняй, зроблены без адзінага цвіка. Таксама вельмі цікавая тэхналогія ўзвядзення зруба, калі прымяняюцца бярвёны самай рознай таўшчыні.

Памяшканне, дзе стаяць каровы, таксама з'яўляецца як бы працягам тэхнічнага майстэрства пустэльнікаў. Пры жаданні тут можна зрабіць загоны самых розных памераў. Зачыняецца яно амаль як дзверы ў банках, хіба што фотаэлементаў не хапае.

Усе прыстасаванні прадуманы да дробязей, геніяльна і проста зроблены нават самыя звычайныя драбіны — яны на рысорах, і пры жаданні можна ўтварыць платформу і вазок.

Шлях жыццёвага ўладкавання пустэльнікаў увогуле нагадвае, вяртанне да былога, да часоў, мабыць, векавой даўніны. Напэўна, гэта шлях да натуральнага. Зямны шлях веры...

## ПЕРАСЦЯРОГА

Развітваючыся, айцец Аляксей працягнуў мне некалькі паперак, дзе былі надрукаваны ўрыўкі з павучанняў старцаў Опцінай пусткі. «Зараз ідзе сапраўдная вайна за чалавечыя душы, — зазірнуўшы ў мае вочы, прамовіў свяшчэннік, — усе мы, як асобы духоўныя, уваходзім у нябеснае воінства, якое змагаецца з цёмнымі сіламі. Асабліва абвастрылася гэтае процістаянне зараз, напрыканцы XX стагоддзя, якое прынесла, дарэчы, столькі няшчасцяў чалавецтву. Толькі вера можа прынесці ачышчэнне (дарэчы, сам айцец Аляксей, згодна з медыцынскімі даведкамі пачатку 1996 года пазбавіўся ад свайго смяротнага захворвання. Прычым без усялякага спецыяльнага лячэння. — **М.Л.**). Зараз кожны павінен пазнаць сваю душу. Я не клічу ўсіх прыходзіць на пусткі, сюды прыходзяць прызваныя. Кожны павінен рэалізаваць свае сілы на тым месцы, якое ён павінен займаць. Але менавіта людзі веры зберагалі ўвесь час свет ад пагібелі. Гэта даволі цяжка зразумець, як, нарэшце, прааналізаваць той факт, што нават Сталін (ёсць такія звесткі) быў глыбока веруючым чалавекам, у яго ў перыяд вайны была царква, дзе ён маліўся.

Трэба зразумець: ніякія мы не вар'яты, дзівакі, арыгіналы, мы, жывучы ў пустцы, выконваем волю Бога. І молімся за ўсіх вас. Толькі любоў выратуе свет. Толькі любоў нараджае любоў, а шчырасць — шчырасць».

Цярпець і маліцца, спасцігаючы Бога. Адышоўшы ад свету, які калісьці падараваў ім жонку, дзяцей, кар'еру, адначасова «падараваўшы» і праявы жорсткасці. Вядома, можна па-рознаму адносіцца да пустэльнікаў, нават зневажаць іх. Але абысці гэтую з'яву немагчыма. Бунт разам з барацьбой дзвюх процілегласцей (Дабра і Зла) увесь час жылі і будуць жыць у душы кожнага з нас. Вызначаць свой шлях у гэтым свеце, сваё месца ў грамадстве, сярод людзей можна толькі асабіста. Як і шлях да нябёсаў, да Бога.

Трэба кожнаму несці свой Крыж...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**
**Фота Васіля РАДОЎСКАГА.**

*P.S. Рэдакцыя праз пэўны час яшчэ звернецца да гэтай тэмы.*

ПРАМАЯ ЛІНІЯ

# Васіль ЛЯВОНАЎ: «Наш шлях — захаванне буйной сельскагаспадарчай вытворчасці, заснаванай на прыватнай акцыяніраванай уласнасці»

***Аграпрамысловы комплекс сёння разглядаецца як выразны рухавік, здольны пацягнуць за сабою астатнюю народную гаспадарку. І выцягнуць? Ці атрымаецца? Ці здольны калгасы, дзяржаўныя гаспадаркі пры падтрымцы, магчыма, фермераў, нешта кардынальна змяніць? «Звязда», збіраючыся ўзнімаць гэтыя пытанні, шукаючы на іх адказы, першнаперш апелюе да думак, меркаванняў спецыялістаў. Сярод іх, безумоўна, — і міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль Севасцьянавіч Лявонаў. Але сённяшняя сустрэча з ім — не столькі спроба высветліць перспектывы ў развіцці сельскай гаспадаркі, колькі наша жаданне разам з аўтарытэтным кіраўніком паспрабаваць атрымаць пэўны зрэз грамадскай думкі ў дачыненні да АПК, да вёскі...***



**— Сяргей Ладуцька, Уздзенскі раён. Васіль Севасцьянавіч, усё ж пытанне ўласнасці на зямлю зараз самае, відаць, кардынальнае ў вызначэнні перспектыў развіцця сельскай гаспадаркі. Хацелася б ведаць пра ваша асабістае стаўленне да праблемы.**

— Раскажу вам пра адзін прыклад. Пытаюся ў сына раскулачанага калісьці моцнага гаспадара: «Хацеў бы ты вярнуць прыватную ўласнасць, якую меў некалі?» А ў адказ мне: «Не, ні ў якім разе. Я не хачу новай вайны». Уявіце сабе, што яшчэ пры Саюзе мы прагаласавалі б за прыватную ўласнасць, куплю-продаж зямлі. Дзе б яна была зараз? Магчыма, з цягам часу будзе поўная ўласнасць на зямлю. Але толькі не зараз, бо ў перыяд інфляцыі такое грунтоўнае пытанне ніколі не вырашаецца. Магчыма, напалову пяройдзе ва ўласнасць. Сёння добра было б сорак працэнтаў аддаць людзям, якія непасрэдна жывуць на вёсцы. Астатняе — і яно прыпадае на гарадскога жыхара — вазьміце ў арэнду. Мы ж чэкі на заводы далі і сялянам... Але сёння не да гэтага, не да галоўнага пытання.

Але звярніце ўвагу, што не ўсё так проста вырашаецца з механізмам прыватызацыі ўвогуле. Агледзьцеся, што ж атрымалася з перадачай кватэр ва ўласнасць. Здавалася б, чаго прасцей, а на справе ж — няма рынку жылля. Няма нават закона, які б рэгуляваў сапраўдныя пытанні куплі-продажу зямлі. Затое ценявыя структуры дзейнічаюць вельмі актыўна.

Дарэчы, нагадаю. Трынаццаць працэнтаў зямлі раздадзена. Таксама ж ценявы пакуль рынак... Няма кадастра. Колькі каштуе чыя зямля — ніхто не ведае. Вось у мяне, напрыклад, 0,167 гектара зямлі. Я купіў яе па намінальным кошце. Афіцыйна я магу яе за гэты ж кошт і прадаць — усяго за некалькі тысяч рублёў. Але ж хіба сапраўды гэтулькі каштуе зямля пад Мінскам? І што непасрэдна дзяржаве з таго продажу?

**— Васіль Севасцьянавіч, а мо яно і добра, што ў цяперашняй сітуацыі людзі за бесцань атрымліваюць першапачатковую ўласнасць?**

— Згодзен. Але ж рынку ў нас няма. За аўтамабіль прададзены мы плацім ці, хутчэй, — купляючы аўтамабіль, плацім пяць—сем працэнтаў дзяржаве. Гэта — ад сапраўднай цаны. З зямлёй такога няма.

**— Што ж тады перашкаджае стварэнню рынку зямлі?**

— Неразваротлівасць. Калі ўдакладніць — неразваротлівасць Мінфіна і Мінэканомікі. Яны спяць у шапку. Я вось пра што гавару: давайце прададзім зямлю пад Мінскам. Вось гэтыя катэджы, што пабудаваны на вачах, перад вачыма ўсяе сталіцы, належаць тым, хто мае кватэры. Чаму б такім гаспадарам не прадаць іх участкі па дзесяць тысяч долараў, а не за мінімальны кошт? Адно толькі — трэба дамовіцца з кіраўнікамі тых гаспадарак, на тэрыторыі якіх узводзяцца катэджы.

**— Васіль Севасцьянавіч, прабачце, што займаю гэтулькі часу, але ўсё ж такі дазвольце высветліць да канца. Калі б усё ж нешта скранулася з мёртвага пункту, то адно тое, што зямля паступіла на сапраўдны рынак, у абарот, ці насіла б, ці мела б праграсіўны характар?**

— Так, мела б. Але яшчэ ж да гэтага трэба было б зрабіць кадастр. У нас жа зямля ацэнена толькі да Стоўбцаў, тая частка, што была пад Польшчай. Зараз, толькі сёлета, за кошт швейцарскіх грошай ацэньваецца зямля вакол Мінска і абласных цэнтраў. Гэта — праект Мінпрыроды. Як толькі з'явіцца гэтая ацэнка, тады можна будзе весці рэальныя размовы.

**— Сяргей Іваноў, Мінск. Васіль Севасцьянавіч, вядомая справа, многія сёння ў горадзе застаюцца без працы. Учарашняя вясковая моладзь па дзесяць гадоў і болей жыве ў заводскіх інтэрнатах. Думаю, што, маючы пэўныя льготы, пэўную падтрымку, многія б вярталіся да зямлі. Што вы можаце канкрэтнае сказаць з гэтай нагоды?**

— Для ўсёй моладзі (а не толькі для сельскай) дзяржавай прадугледжана пэўная падтрымка. Але ж калі гаварыць увогуле пра ўмовы сельскага жыхара, то прадугледжаны льготы па пабудове, узвядзенню ўласнага дома. Гектар зямлі атрымаеце ва ўласнасць. Дапамога дзяржавы будзе вызначацца ў тым, што вы амаль бясплатна возьмеце лес на свой дом. І будзе прадастаўлены льготны крэдыт на будаўніцтва дома. Пры ўмове выплаты не болей як пяці-шасці працэнтаў гадавых. Там, дзе гаспадаркі ў нас моцныя, раскладваецца сума затрат па будаўніцтву наступным чынам: прыблізна працэнтаў дваццаць вы ўнесяце асабіста, працэнтаў трыццаць — калгас, астатнія пяцьдзесят працэнтаў складзе крэдыт. У залежнасці ад эканомікі гаспадаркі вам могуць выдзеліць больш, але для гэтага трэба працаваць у калгасе, саўгасе.

**— І гэта ўсё ўжо выкладзена ў дакументах, мае заканадаўчы характар?**

— Так, указ па сельскаму жыллю нядаўна падпісаны Прэзідэнтам краіны. А рашэнне ўрада, якое датычыцца лесаматэрыялаў, ужо прынята амаль год назад.

**— Дзякуй, Васіль Севасцьянавіч. Магчыма, падумаю пра нейкія перамены ў сваім лёсе.**

— Нічога раіць вам не буду. Але заўважу адно: вырашыўшы, спяшайцеся выбраць добрае месца. Калі ж мы правядзём рэформы, то на вёсцы будзе і шмат лішніх людзей. І працэнтам трыццаці з іх невядома што будзе рабіць. Каб забяспечыць дастойны ўзровень жыцця — атрымліваць прыкладна тысячу долараў — трэба апрацоўваць не меней як 100 гектараў, калі гаварыць пра фермера.

**— Сяргей Грыгор'еў вас турбуе. З Мінска. У мяне на «прамую лінію» даволі канкрэтнае пытанне. Сёлета на вёсцы, на бацькаўшчыне, проста выдатны ўраджай. Пры ўмове, што і гаспадарка нейкая маецца, ёсць усё ж лішкі. Як быць? Куды больш-менш выгадна можна здаць бульбу?**

— Гэта трэба здаваць туды, дзе ёсць спіртзавод... Але цана там мізэрная. Тут я хацеў бы крышачку патлумачыць сітуацыю. Палякі прадаюць на нашу тэрыторыю бульбу ўжо па 9 цэнтаў за кілаграм. На спірт жа, каб год не ўзнімаць цану на гарэлку, можна бульбу пускаць па цане 4 цэнты за 1 кілаграм. Калі ўжо 5 цэнтаў, то адпадае, не праходзіць, не мае сэнсу. А вы дзе жывяце, дарэчы?

**— Сам з Мінска. Але ж бацькаўшчына — у Лагойскім раёне.**

— Так, сапраўды перапрацоўкі няма побач. Але ж у Беларусі ўвогуле асабліва ніхто бульбы не купляе. Я вось асабіста таксама, бо вырошчваю ўласную. Таму ўнутраны рынак адсутнічае. Адзінае, што магу параіць, пазваніце ў райспажыўсаюз. Мы дамовіліся, і яны з Таджыкістанам пакуль што маюць нарады, наколькі я ведаю.

**— Дык можа якія гаспадаркі могуць купіць?**

— А куды яны яе дзенуць? Можа і купяць, але па 3 цэнты за 1 кілаграм. Наўрад ці гэта вас задаволіць. Таму лепей патрымаць да вясны. Калі ў вас ёсць грошы, не надта пільная патрэба ў іх, то перабярыце добра бульбу, падумайце, як лепш захаваць да вясны. Упэўнены, цана тады ўзнімецца як мінімум у два разы.

**— Дабравольскі вас турбуе, Васіль Севасцьянавіч, горад Мінск. У мяне два пытанні да вас. Першае, магчыма, крышачку тэарэтычнае. Але не магу не пацікавіцца вашай думкай наконт гэтага, Васіль Севасцьянавіч. Співаецца вёска. Што рабіць? Гарэлка вядзе да дэградацыі.**

— Колькі яшчэ дзесяцігоддзяў і стагоддзяў будуць піць — хто вам на гэта адкажа? На вялікі жаль, співаецца не толькі вёска. Але ж співаецца, атручвае сябе алкаголем і горад. Хто хоча спіцца — той співаецца. А як прадухіліць гэтую навалу — гэта можа не столькі задача Мінсельгасхарчу, колькі змена ўмоў жыцця. Я ведаю і прычыны п'янства на вёсцы, і многія жахлівыя факты. Бывае, што, атрымаўшы доўгачаканую зарплату са спазненнем на два-тры месяцы, за адзін-два дні яе прапіваюць. Я мяркую (даследаванне на гэтую тэму, праўда, не праводзіў), што пэўную ролю адыгрывае агульная незадаволенасць жыццём, агульны такі настрой штурхае да гарэлкі. Трэба хутчэй выходзіць з крызісу, даваць перспектыву людзям — тады і п'янка спыніцца. Гэта калі гаварыць пра знешні фактар. Але вельмі многае залежыць і ад чалавека як ад асобы, ад уласных памкненняў і жаданняў кожнага.

**— І другое пытанне, Васіль Севасцьянавіч. Цяжка на вёсцы зараз — і не толькі пажылым людзям — бульбу ў тэрмін пасеяць, збожжа зжаць, у пару тую бульбу ўбраць. Амаль што няма ў гаспадарках коней. Тэхніка патрэбна і на калгасных палетках. Чаму б міністэрству не стварыць спецыяльныя атрады, напрыклад, на базе раённых аб'яднанняў сельгастэхнікі для дапамогі селяніну на прысядзібных участках?**

— Пытанне з найважнейшых. З тых, што асабліва ўвесну і ўвосень абвастраюцца як ніколі, вызначаючы настрой людзей. Мы прапрацоўваем гэтае пытанне. У большай ступені нармальная ідэя дапамогі ўвасабляецца, як ні дзіўна, у Гродзенскай вобласці, дзе гаспадаркі стабільна моцныя. Там, відаць, ужо з наступнага года пачнуць працаваць атрады па ўборцы збожжавых. Але ж у нас ёсць меліярацыйныя ПМК, ёсць тая ж «Сельгасхімія». У іх шмат тэхнікі. Ранейшых аб'ёмаў працы, зразумелая справа, няма. Хацелася б, каб і яны праявілі ініцыятыву ў гэтым накірунку.

Але ж справа ў тым, што за работу тэхнікі трэба плаціць немалыя грошы. А іх зараз у селяніна і няма. Так што недахвату ў падрадчыках няма, як мне здаецца. Пытанне — у аплаце.

**— «Прамая лінія»? Вас турбуе жыхар Браслаўскага раёна... Мяне цікавіць, як хутка будуць разагнаны калгасы. Усім жа ясна, што з той, старой, формай гаспадарання наўрад ці магчымы плён. Хіба ж не так? Побач жа прыклад Прыбалтыкі...**

— Мы не разганяем калгасы. А па меры таго, як у калектыву з'яўляецца жаданне, як людзі даюць згоду, дапамагаем гэтым гаспадаркам рэфарміравацца, захоўваючы іх. Размова ў нас, што датычыцца перспектыў, не ідзе пра фермерства, як у Прыбалтыцы, а пра захаванне буйной сельскагаспадарчай вытворчасці, ужо заснаванай на прыватнай акцыяніраванай уласнасці. Гэта — наш шлях. Такіх гаспадарак на Беларусі рэфарміравалася ўжо больш за пяцьдзесят. Але гэта пры ўмове, паўтаруся, наяўнасці жадання з боку іх калектываў.

**— Зноў жа пра блізкі прыклад, пра суседзяў-капіталістаў. У Прыбалтыцы перакана765ы, што калі не аддаць зямлю ў прыватныя рукі, то нельга будзе весці з банкам справу. У нас жа зусім іншае...**

— У нас ёсць што закладваць без зямлі, каб атрымаць крэдыт для нармальнага развіцця. Гэта жывёла прадуктыўная, тэхніка. Дастаткова, словам, для залогу. Але ж мы яшчэ не лічылі, што заўжды ў залог можам аддаць ураджай.

**— Ігар Лукашук з Гарадзеі. Васіль Севасцьянавіч, вы цудоўна ведаеце, у якім стане знаходзіцца трактарны парк калгасаў. І гэта пры тым, што ў Мінску на МТЗ стаіць тэхніка, новая тэхніка, якую не могуць рэалізаваць. Што можна зрабіць тут на карысць вёскі?**

— Пытанне пачало вырашацца сёлета. Тэхніку набываюць з умовай, што выплаты будуць ажыццяўляць на працягу трох гадоў пасля набыцця. Дзяржава выдзеліла першыя грошы. Гэта продаж тэхнікі па лізінгу. Сёлета прададзена 1200 трактароў. Рыхтуемся працягваць справу. Але трэба, відаць, сказаць, што трактар калгасу трэба зарабляць. Бясплатных падарункаў ні Мінсельгасхарч, ні ўвогуле дзяржава не зробяць.

**— Васіль Севасцьянавіч, вас турбуе землеўпарадкавальнік з Верхнядзвінска Наталля Палтаўцава. Вашы адносіны да такой формы ўласнасці, як калектыўна-долевая?**

— Ёсць два віды ўласнасці — дзяржаўная і прыватная. Калектыўна-долевая, магчыма, мае сэнс у палітычным ракурсе, у псіхалагічным плане, каб падрыхтаваць, прывучыць чалавека і грамадства да прыватнай уласнасці. Я лічу, калі такі варыянт — варыянт калектыўна-долевай уласнасці — праходзіць, то ўжо адно толькі гэта з'яўляецца (ці з'явіцца) крокам грамадства наперад.

Дарэчы, 13 працэнтаў зямлі ў нас знаходзіцца ў прыватнай уласнасці.

**— І як вы ставіцеся да гэтага?**

— Я лічу, што сяляне павінны атрымаць сваю долю — сорак працэнтаў. Бясплатна. А шэсцьдзесят працэнтаў атрымаць у арэнду ад дзяржавы. І ўжо пасля, нешта зарабіўшы, калі будзе кадастр, калі будзе ацэнена ўсё, няхай яшчэ купляюць...

**— Але ж ці жадаюць, ці хочуць гэтага людзі?**

— А многія людзі ўвогуле ніколі нічога не хочуць. Успомніце гісторыю. Рэформы ў дзяржаве ніколі людзі з нізоў не праводзілі. Зямельная рэформа 1861 года... Супраць памешчыкаў выступіў цар. Вось і рэформа.

**— Не баіцеся вы супраціўлення людзей рэформам?**

— А куды людзі дзенуцца?! Куды вы дзенецеся?! Кожны павінен зарабляць грошы. Дзеля гэтага і практыкуюцца рэформы, каб даць чалавеку магчымасць зарабіць, праявіць свае здольнасці. Я думаю, што людзям гэта якраз і трэба растлумачыць. Вось вам, у залежнасці ад вашага працоўнага стажу, гавораць: вазьмі, маўляў, Наталля, акцыю, напрыклад, на гэтулькі мільёнаў рублёў. Вы хіба будзеце супраць?

**— Не, відаць. Хто ж будзе супраць шанцу на заробак...**

— Вось бачыце. Разам з суседзямі ўжо пачняце думаць, як працаваць так, каб акцыі прыносілі даход. Пачняце глядзець на старшыню, як на чалавека здольнага альбо не прымаць граматныя рашэнні. Сёння ж уласнасць, якая з'яўляецца ў калгасах нічыйнай, нікога з калгаснікаў асабіста не хвалюе. Раптам пайшоў з калгаса — і ўсё. Ніхто наўздагон табе нічога не дасць. Пасля акцыяніравання сітуацыя іншая. Пойдзеце з калгаса — вы ж забераце свае акцыі, прададзіце іх і атрымаеце грошы. Можаце трымаць акцыі, атрымліваючы дывідэнды, але ўжо не працуючы ў калгасе. Уявіце сабе, наколькі такое вырашэнне праблемы важнае для пенсіянера. Гэта ж сапраўдная сацыяльная абарона насельніцтва. Так што знайдзіце тых, хто будзе супраць акцый.

**— Вас турбуе чытач з Чэрвеньскага раёна. Зараз у калгасах вялікія запазычанасці ці ўвогуле цяжкасці з выплатай зарплаты. Як актыўна выкарыстоўваецца форма натуральнай выплаты? У прыватнасці, разлікі малаком, мясам...**

— Увогуле мы павінны кіравацца цывілізаванымі формамі разліку. Будуць у чалавека грошы — ён сам вызначыць, што купляць.

**— Васіль Севасцьянавіч, шмат праблем з выплатай зарплаты звязана з несвоечасовымі плацяжамі гаспадаркам за прададзеную прадукцыю...**

— Не ўсё так дрэнна. Магу сказаць вам, што ў Гродне за малако і мяса ідзе нават перадаплата. Гэта, безумоўна, залежыць ад многіх фактараў. У тым ліку — і ад разумення мясцовых уладаў. Плаціць у любым выпадку трэба адразу. Але вось з бульбай... Калгасы не могуць яе прадаць. Здаюць на крухмальныя заводы і гадамі чакаюць разлікаў. Усё залежыць ад рынку і плацежаздольнасці нашых грамадзян.

**— Быкаў Іван Іванавіч, з Мінска. Перш чым задаць пытанне, давайце вызначымся. Пратэкцыянісцкая палітыка з боку дзяржавы альбо інакш — так званая абарона айчынных вытворцаў ажыццяўляецца за кошт кішэні спажыўца. Дакладна вядома, што ніводзін гандлёвы кантракт на пастаўку імпартнага харчавання не праходзіць без візы Міністэрства сельскай гаспадаркі. Як гэта стасуецца з нашым як быццам бы рухам на рынку і клопатамі дзяржавы аб дабрабыце сваіх суграмадзян?**

— Я вам магу адказаць вельмі проста. А вы вазьміце прадайце сваю бульбу ў Польшчы альбо Германіі. Няхай вас туды ўвогуле ўпусцяць. Ці мяса альбо малако... Вас туды проста не пусцяць. Калі павезяце свой тавар у Германію, на бульбу накладуць імпартную пошліну ў 200 працэнтаў — і тады давядзецца прадаваць па цане звычайнага гною. Гэта нармальная з'ява, калі на шляху да рынку ажыццяўляецца ў разумных межах падтрымка ўласнага вытворцы. Добра, прымаем вашу, Іван Іванавіч, рыначную мадэль — і здымаем усе пошліны. І заўтра ў нас беспрацоўнымі становіцца атрад рабочых у паўтара мільёна чалавек, за кошт чаго яны будуць купляць гэтую імпартную прадукцыю?

**— Вы не крыўдуйце, Васіль Севасцьянавіч, але я лічу, што ўсё гэта казкі.**

— Я не крыўдую, мы ж спрачаемся. Да таго ж лічу, што вашы перакананні заснаваны на казачных уяўленнях. Вы няправільна разумееце рыначныя законы. Няма ніводнай дзяржавы, якая б не абараняла свайго вытворцу.

**... «Прамая лінія», іншыя звароты ў рэдакцыю, сустрэчы з рознымі людзьмі пераконваюць: вёска чакае змен. Вёска не мітынгуе (гісторыя вынесе свой вердыкт, добра гэта ці дрэнна). А зараз, увосень, вёска і зусім не ведае хвіліны спакою. Увесь час — працы. Бульбе. Агароду. Саду. Але і занятая працай вёска маўкліва перажывае, чаму ж так няпроста, цяжка жыць. Чаму нашмат цяжэй даярцы, чым яе равесніцы, занятай у горадзе на пагадзіннай працы? Чаму не спіцца сельскаму механізатару — ломіць рукі, баліць спіна? Так, цяжкая праца, у большасці выпадкаў — цяжэйшая, чым у горадзе. У чым жа тады прычына — грошы тут, на вёсцы, не заробіш. Мо прычына ці, хутчэй, ужо выйсце — у змене формы ўласнасці? Не абавязкова і нават зусім не трэба атаясамліваць працэс рэформаў, змен з фермерствам. Яно ж толькі частка, самая невялікая частка нашай будучыні. Якім уяўляецца рэфарміраванне сельскай гаспадаркі, будучыня вёскі вачыма спецыялістаў АПК — пра гэта размова ў бліжэйшых нумарах «Звязды».**

**Матэрыялы «Прамой лініі» запісаў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# 50 вядучых палітыкаў

## У Маскве палітычнае жыццё вызначалі чачэнскія падзеі, у Мінску — процістаянне

### 50 вядучых палітыкаў Беларусі

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | Жнівень | Ліпень | | |
| 1. | Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 7,41 | 6,79 | Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь |
| 2. | Шарэцкі Сямён Георгіевіч | 5,72 | 5,94 | Старшыня Вярхоўнага Савета, фракцыя аграрыяў |
| 3. | Новікаў Васіль Мікалаевіч | 5,07 | 2,04 | Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя камуністаў |
| 4-5. | Замяталін Уладзімір Пятровіч | 4,46 | 4,15 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 4-5. | Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч | 4,46 | 4,06 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 6. | Пазняк Зянон Станіслававіч | 4,30 | 3,21 | Лідэр Беларускага народнага фронту |
| 7. | Багданкевіч Станіслаў Антонавіч | 4,07 | 4,64 | Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» ў Вярхоўным Савеце |
| 8. | Калякін Сяргей Іванавіч | 4,02 | 3,53 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі камуністаў |
| 9. | Шэйман Віктар Уладзіміравіч | 3,80 | 3,66 | Дзяржсакратар Савета бяспекі |
| 10. | Бухвостаў Аляксандр Іванавіч | 3,70 | 3,36 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, лідэр Беларускай партыі працы |
| 11. | Хадыка Юрый Віктаравіч | 3,67 | 4,06 | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту |
| 12-13 | Ціцянкоў Іван Іванавіч | 3,65 | 3,94 | Кіраўнік спраў Прэзідэнта |
| 12-13. | Чыгір Міхаіл Мікалаевіч | 3,65 | 4,13 | Прэм'ер-міністр |
| 14. | Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч | 3,59 | 4,81 | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 15. | Ціхіня Валерый Гур'евіч | 3,44 | 4,62 | Старшыня Канстытуцыйнага суда |
| 16-17. | Антановіч Іван Іванавіч | 3,31 | 2,38 | Намеснік міністра замежных спраў |
| 16-17. | Посахаў Сяргей Аляксеевіч | 3,31 | 2,87 | Памочнік Прэзідэнта |
| 18. | Баршчэўскі Лявон Пятровіч | 3,24 | 2,89 | Намеснік старшыні Беларускага народнага фронту |
| 19. | Навумчык Сяргей Іосіфавіч | 3,17 | 2,55 | Прэс-сакратар Беларускага народнага фронту |
| 20. | Кісель Рыгор Леанідавіч | 3.04 | 2,96 | Старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі |
| 21. | Статкевіч Мікалай Віктаравіч | 2,96 | 2,91 | Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада» |
| 22. | Ярмошын Уладзімір Васільевіч | 2,87 | 3,11 | Мэр Мінска |
| 23-24. | Віннікава Тамара Дзмітрыеўна | 2,74 | 3,43 | Старшыня Нацыянальнага банка |
| 23-24. | Лінг Сяргей Сцяпанавіч | 2,74 | 1,68 | Віцэ-прэм'ер |
| 25. | Сянько Уладзімір Лявонавіч | 2,70 | 3,34 | Міністр замежных спраў |
| 26—28. | Дабравольскі Аляксандр Альгертавіч | 2,65 | 3,34 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі |
| 26—28. | Латыпаў Урал Рамдракавіч | 2,65 | 2,51 | Кіраўнік сакратарыята — памочнік Прэзідэнта |
| 26—28. | Якубовіч Павел Ізотавіч | 2,65 | 2,57 | Галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия». |
| 29-30. | Абрамовіч Аляксандр Міхайлавіч | 2,59 | 2,23 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 29-30. | Гіруць Мечыслаў Іванавіч | 2,59 | 1,43 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі аграрыяў |
| 31. | Агалец Валянцін Сцяпанавіч | 2,52 | 3,06 | Міністр унутраных спраў |
| 32. | Ганчарык Уладзімір Іванавіч | 2,50 | 2,72 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода». Старшыня Савета Федэрацыі прафсаюзаў |
| 33. | Гаркун Уладзімір Гіляравіч | 2,44 | 2,19 | Віцэ-прэм'ер |
| 34. | Мацкевіч Уладзімір Аляксандравіч | 2,43 | 2,17 | Старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі |
| 35. | Таразевіч Георгій Станіслававіч | 2,41 | — | Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол, член савета Партыі народнай згоды |
| 36. | Слука Алег Георгіевіч | 2,39 | 2,49 | Памочнік Прэзідэнта |
| 37. | Мальцаў Леанід Сямёнавіч | 2,37 | 2,06 | Міністр абароны |
| 38. | Лявонаў Васіль Севасцьянавіч | 2,31 | 1,72 | Міністр сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 39. | Грыб Мечыслаў Іванавіч | 2,30 | 2,74 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы» |
| 40. | Марыніч Міхаіл Афанасьевіч | 2,26 | 2,81 | Міністр знешніх эканамічных сувязей |
| 41-42. | Капітан Васіль Сцяпанавіч | 2,20 | 2,34 | Генеральны пракурор |
| 41-42. | Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч | 2,20 | 3,51 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 43-44. | Філарэт | 2,19 | 2,79 | Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі |
| 43-44. | Цапкала Валерый Вільямавіч | 2,19 | 1,85 | Першы намеснік міністра замежных спраў |
| 45. | Чыкін Віктар Валянцінавіч | 2,15 | 1,13 | Сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларусі |
| 46. | Палевікова Валянціна Цімафееўна | 2,07 | — | Старшыня партыі жанчын «Надзея» |
| 47-48. | Вячорка Вінцук Рыгоравіч | 2,06 | 2,36 | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту |
| 47-48. | Краўчанка Пётр Кузьміч | 2,06 | 3,13 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня Камісіі па міжнародных справах |
| 49. | Шлындзікаў Васіль Міхайлавіч | 2,02 | 3,32 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах |
| 50. | Капітула Пётр Андрэевіч | 1,94 | 2,21 | Памочнік Прэзідэнта — начальнік аналітычнага цэнтра |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi» ТАА «Скарына» 1996 г.**

### 50 вядучых палітыкаў Расіі

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Жнівень | Ліпень | |
| 1. | Чарнамырдзін Віктар Сцяпанавіч | 7,69 | 7,40 | Прэм'ер-міністр |
| 2. | Ельцын Барыс Мікалаевіч | 7,40 | 8,83 | Прэзідэнт Расіі |
| 3. | Лебедзь Аляксандр Іванавіч | 7,35 | 6,91 | Сакратар Савета бяспекі, памочнік Прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы. Дэпутат Дзяржаўнай Думы |
| 4. | Чубайс Анатоль Барысавіч | 7,32 | 7,22 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 5. | Лужкоў Юрый Міхайлавіч | 6,74 | 7,29 | Мэр Масквы, член Савета Федэрацыі |
| 6. | Ліўшыц Аляксандр Якаўлевіч | 5,74 | 4,69 | Міністр фінансаў, віцэ-прэм'ер |
| 7. | Яндарбіеў Зелімхан | 5,35 | — | Прэзідэнт Чачэнскай Рэспублікі |
| 8. | Зюганаў Генадзь Андрэевіч | 5,33 | 6,16 | Старшыня КПРФ, лідэр фракцыі камуністаў у Дзяржаўнай Думе |
| 9. | Масхадаў Аслан Аліевіч | 5,23 | 4,06 | Начальнік штаба ўзброеных фарміраванняў апазіцыі Чачэнскай Рэспублікі |
| 10-11. | Кулікоў Анатоль Сяргеевіч | 5,13 | 4,73 | Міністр унутраных спраў |
| 10-11. | Строеў Ягор Сямёнавіч | 5,13 | 5.00 | Старшыня Савета Федэрацыі, губернатар Арлоўскай вобласці |
| 12. | Прымакоў Яўген Максімавіч | 5,00 | 5,16 | Міністр замежных спраў |
| 13. | Ілюшын Віктар Васільевіч | 4,98 | 5,55 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 14. | Радзівонаў Ігар Мікалаевіч | 4,91 | 4,96 | Міністр абароны |
| 15. | Дубінін Сяргей Канстанцінавіч | 4,81 | 4,88 | Старшыня Цэнтральнага банка |
| 16. | Селязнёў Генадзь Мікалаевіч | 4,69 | 4,67 | Старшыня Дзяржаўнай Думы, фракцыя камуністаў |
| 17. | Шайміеў Мінтімер Шарыпавіч | 4,57 | 3,89 | Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан, член Савета Федэрацыі |
| 18. | Бальшакоў Аляксей Аляксеевіч | 4,54 | 2,41 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 19. | Заўгаеў Доку Гапуравіч | 4,42 | 4,08 | Кіраўнік Чачэнскай Рэспублікі, член Савета Федэрацыі |
| 20. | Патанін Уладзімір Алегавіч | 4,38 | — | Першы віцэ-прэм'ер |
| 21-22. | Алексій II | 4,17 | 4,13 | Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі |
| 21-22. | Ясін Яўген Рыгоравіч | 4,17 | 3,85 | Міністр эканомікі |
| 23. | Наздраценка Яўген Іванавіч | 4,04 | 3,19 | Губернатар Прыморскага края, член Савета Федэрацыі |
| 24. | Бабічаў Уладзімір Сцяпанавіч | 4,02 | 3,09 | Кіраўнік апарату ўрада Расіі. |
| 25. | Сатараў Георгій Аляксандравіч | 4,00 | 4,54 | Памочнік Прэзідэнта |
| 26. | Дзьячэнка Таццяна Барысаўна | 3,96 | — | Былы член перадвыбарнага штаба, дачка Б. Ельцына |
| 27. | Скуратаў Юрый Ільіч | 3,86 | 4,18 | Генеральны пракурор |
| 28-29. | Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч | 3,85 | 3,95 | Старшыня ЛДПР, лідэр фракцыі ЛДПР у Дзяржаўнай Думе |
| 28-29. | Шойгу Сяргей Кужугетавіч | 3,85 | 3.04 | Міністр па надзвычайных сітуацыях |
| 30. | Шохін Аляксандр Мікалаевіч | 3,74 | 3,51 | Першы намеснік Старшыні Дзяржаўнай Думы, фракцыя «Наш дом — Расія» |
| 31. | Рохлін Леў Якаўлевіч | 3,72 | 4,31 | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, фракцыя «Наш дом — Расія», старшыня Камітэта па абароне |
| 32. | Нікалаеў Андрэй Іванавіч | 3,71 | 3,63 | Дырэктар Федэральнай пагранічнай службы |
| 33. | Глазьеў Сяргей Юр'евіч | 3,58 | 2,74 | Начальнік упраўлення эканамічнай бяспекі Савета бяспекі |
| 34. | Малашанка Ігар Яўгенавіч | 3,56 | 4,40 | Кіраўнік тэлекампаніі НТБ |
| 35. | Туманаў Уладзімір Аляксандравіч | 3,55 | 2,90 | Старшыня Канстытуцыйнага суда |
| 36. | Нямцоў Барыс Яфімавіч | 3,52 | 3,67 | Губернатар Ніжагародскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 37. | Росель Эдуард Эдгардавіч | 3,51 | 3,60 | Губернатар Свярдлоўскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 38-40. | Аушаў Руслан Султанавіч | 3,46 | 3,04 | Прэзідэнт Рэспублікі Інгушэція |
| 38-40. | Батурын Юрый Міхайлавіч | 3,46 | 2,69 | Памочнік Прэзідэнта |
| 38-40. | Міхайлаў Вячаслаў Аляксандравіч | 3,46 | 3,52 | Міністр па справах нацыянальнасцей |
| 41. | Ілюхін Віктар Іванавіч | 3,44 | 3,51 | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, фракцыя камунстаў, старшыня Камітэта па бяспецы |
| 42. | Задорнаў Міхаіл Міхайлавіч | 3,43 | 3,31 | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, фракцыя «Яблоко», старшыня Камітэта па бюджэту |
| 43. | Тулееў Амангельды Малдагазыевіч | 3,41 | 2,87 | Міністр па справах СНД |
| 44. | Ігнаценка Віталій Мікітавіч | 3,35 | 3,08 | Віцэ-прэм'ер, старшыня Дзяржкамдруку |
| 45. | Кісялёў Яўген Аляксеевіч | 3,30 | 3,83 | Вядучы тэлепраграмы «Вынікі», віцэ-прэзідэнт тэлекампаніі НТБ |
| 46. | Лобаў Алег Іванавіч | 3,26 | 3,54 | Віцэ-прэм'ер |
| 47-48. | Барадзін Павел Паўлавіч | 3,23 | 2,94 | Кіраўнік спраў Прэзідэнта |
| 47-48. | Купцоў Валянцін Аляксандравіч | 3,23 | 3,26 | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, фракцыя камуністаў, першы намеснік старшыні КПРФ |
| 49. | Бяляеў Сяргей Георгіевіч | 3,17 | 3,63 | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, лідэр фракцыі «Наш дом — Расія» |
| 50. | Тарпішчаў Шаміль Анвяравіч | 3,16 | 3,60 | Старшыня Дзяржаўнага камітэта па фізічнай культуры і турызму (да 10.09), саветнік Прэзідэнта па спорту |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», 1996 г.**

***СІТУАЦЫЯ***

# ЗАБОЙЦА ПАКРЫЎДЗІЎСЯ НА СУДДЗЯЎ: АЛЕ СУДДЗІ




СТАЦЬ! СУД ІДЗЕ!

У зале судовага пасяджэння ўмомант усталявалася цішыня. Зараз павінен зачытвацца прыгавор чалавеку, які за сваё 56-гадовае жыццё адправіў на той свет дваіх мужчын і дваіх зрабіў калекамі. Ва ўсіх чатырох выпадках ён бязлітасна пускаў у ход свой нож, цэлячыся ў самае сэрца, каб вырашыць канфлікт на сваю карысць. Двойчы Валянцін Вараб'ёў «прамазаў», а двойчы трапіў у «цэль» і яшчэ ў 1966 годзе быў прызнаны асабліва небяспечным рэцыдывістам, хаця на той час забойстваў на яго крывавым рахунку яшчэ не было. Яны з'явіліся ў 1975 годзе, за што ён адседзеў трынаццаць гадоў у папраўча-працоўнай калоніі асобага рэжыму, і сёлета.

Таму, прыкінуўшы што да чаго і самакрытычна ўзважыўшы ў думках увесь цяжар сваёй віны, Вараб'ёў настроіў сябе на самы рэальны, з яго пункту гледжання, прысуд: вышэйшая мера пакарання. У гэтым, мяркуючы па ранейшай рэакцыі залы, была ўпэўнена і пераважная большасць людзей, якія прыйшлі паслухаць гэты працэс. І вось суддзя Гомельскага абласнога суда па крымінальных справах Зінаіда Камалыева зачытвае прыгавор: пятнаццаць гадоў пазбаўлення волі ў ППК асобага рэжыму. Вараб'ёў імгненна мяняецца з твару, з якога знікае прымусовы халодны спакой і які тут жа пакрывае звярыная злосць, і крычыць у анямелую, прыціхлую залу:

— Якія ж вы бессардэчныя і жорсткія, суддзі! Дайце мне расстрэл! Дайце! Расстрэл!

Ва ўсім яго абліччы не было ні грама артыстызму ці самага прымітыўнага прытворства. Забойцу з усёй сваёй страшнай сілай пекануў стрэс, ушчэнт раструшчыў-разбурыў яго схему, якую ён доўгімі і нуднымі начамі маляваў на нарах следчага ізалятара: жыццё пражыў як хацеў — нікому не падпарадкоўваўся, нікога не баяўся. Сам сабе гаспадар! А смерць — што ж? Яна — адна. Не сёння, дык заўтра. А паміраць, дык з музыкай. Бабах — і няма, капут. Не тое, што гнісьці на ложку ад нейкага туберкулёзу ці сохнуць у муках ад рака.

На некалькі секунд Вараб'ёў змоўк, не зводзячы позірку з суддзі і народных засядацеляў, і ўжо сцішана — рахманым голасам папрасіў:

— Дайце мне «вышку». Я ж за гэтыя пятнаццаць гадоў у турме не выжыву, памру...

Забойца не ў прыклад абсалютнай большасці злачынцаў не жадаў вымольваць у суда нейкай, хай сабе самай нязначнай, палёгкі, а патрабаваў-прасіў найсуровейшага пакарання. І гэта было ненатуральна і для людзей, якія прысутнічалі на крымінальным працэсе, і для суддзяў, і для пракурора. Для ўсіх, акрамя самога Вараб'ёва, бо, апроч яго ўласных абгрунтаванняў наконт вышэйшай меры пакарання, ён лічыў, як гэта ні дзіўна, ненатуральным тое, што здарылася тады, у Дзень Перамогі, дзевятага Мая. Бачыць Бог: ён не хацеў забіваць таго блазнюка. Але ж угробіў, бо не стрымаў сябе, бо ў ім зноў прачнуўся воўк, зноў у ім зайграла самалюбства: паспрабуй толькі пакрыўдзі мяне пагрозай — і за сябе я не ручаюся. А так хацелася жыць ціха-мірна, як жылося апошнія восем гадоў на волі. Без турмаў-катаргаў. Без калючага дроту. Без ахоўнікаў-наглядчыкаў. Без нішчымніцы-баланды. Не атрымалася. А шкада.

... — Заўтра Дзень Перамогі, свята. Схаджу ў інтэрнат, з сябрамі сваімі пасяджу, пагутару аб жыцці-быцці. Даўно не сустракаўся з імі. Адны з іх у беспрацоўныя трапілі, другія змянілі месца работы, трэція — у «чаўнакі» падаліся, — сказаў Валянцін Міхайлавіч сваёй Валянціне.

З ёй, удавой Прышчэпкавай і яе двума сынамі, Вараб'ёў, не распісваючыся, жыў ужо каля чатырох гадоў. Гэта пасля таго, як у чарговы раз выйшаў з калоніі, дзе за наўмыснае забойства правёў доўгія сто пяцьдзесят шэсць месяцаў. Уладкаваўся ён тады на працу на Рэчыцкі завод жалезабетонных вырабаў трэста № 27 токарам. Аднесліся да яго там нармальна: выдзелілі месца ў інтэрнаце, не напаміналі аб яго мінулым. І Вараб'ёў гэта цаніў, бо далёка не кожнаму быламу «зэку» (ведаў гэта добра) удаецца пасля турмы як мае быць уладкаваць сваё жыццё. А тут пашанцавала.

Токар ён быў адмысловы, працу сваю любіў. Дадуць заданне — выканае люба глянуць. Трэба — і пасля змены затрымаецца, і іншаму дапаможа. Праблем, адным словам, ні начальству, ні радавым з ім не было. Больш таго, яго паважалі і за старанне, і за памяркоўнасць, і за талковыя парады, якія ён нярэдка даваў тым, хто да яго звяртаўся. Факт застаецца фактам: на заводзе і ў інтэрнаце ніхто не мог сказаць пра Валянціна Міхайлавіча дрэннае слова ці выказаць у яго адрас нейкі папрок. Гэтак жа, як і паверыць, што да прыходу сюды на работу асабліва небяспечны рэцыдывіст Вараб'ёў за тры цяжкія злачынствы адседзеў у турмах ажно дваццаць чатыры гады з пражытых сарака васьмі.

Яшчэ большую асалоду новага жыцця ён адчуў кожнай клетачкай свайго арганізма, калі, можа ўпершыню, па-сапраўднаму закахаўся ў швачку Дома быта Валянціну Прышчэпкаву, жанчыну, якая паверыла ў яго, адказала на яго пачуццё ўзаемнасцю. Жылі яны ў кватэры Валянціны дружна, у згодзе, але Вараб'ёў не выпісваўся з інтэрната, бо, з яго душы не знікала сумненне, што ў жыцці ўсё можа здарыцца і калі што якое, дык у яго ёсць свой куточак-прытулак. Іншы раз Валянціна, як і большасць жанчын, калі мужыкі з'явяцца дадому «пад мухай», крыўдзілася і папракала Вараб'ёва: навошта выпіў, хіба без гэтага нельга? Валянцін разумеў яе, супакойваў, але ўсё ж чарку і ў наступны раз не прапускаў.

Таму, адпускаючы Вараб'ёва да дружбакоў у інтэрнат, жанчына папярэдзіла яго: глядзі, не набірайся.

— Ды не хвалюйся, усё будзе добра, — адказаў ён, глыбока ўпэўнены ў цвёрдасці сваіх слоў, бо ніякіх намераў да спрэчкі з кім-небудзь, якія б прама ці ўскосна маглі прывесці да канфлікту, не меў.

Мяркуючы па ўсім, так бы яно было і на самай справе, калі б не збег фатальных акалічнасцей.

Вечарам восьмага мая Вараб'ёў выпіў бутэльку гарэлкі з двума сваімі сябрамі. Пасядзелі,

# Беларусі, Расіі і Украіны ў жніўні

## выканаўчай і заканадаўчай уладаў, а ў Кіеве — летнія парламенцкія канікулы.

### 50 вядучых палітыкаў Украіны

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Жнівень | Ліпень | |
| 1. | Кучма Леанід Данілавіч | 8,38 | 7,91 | Прэзідэнт Украіны |
| 2. | Лазарэнка Павел Іванавіч | 8,37 | 8.02 | Прэм'ер-міністр |
| 3. | Мароз Аляксандр Аляксандравіч | 7,11 | 7,08 | Старшыня Вярхоўнай Рады |
| 4. | Гарбулін Уладзімір Паўлавіч | 6,80 | 6,47 | Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі і абароны |
| 5. | Табачнік Дзмітрый Уладзіміравіч | 6,72 | 6,27 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 6. | Юшчанка Віктар Андрэевіч | 6,71 | 5,55 | Старшыня праўлення Нацыянальнага банка |
| 7. | Удавенка Генадзь Іосіфавіч | 4,90 | 4,91 | Міністр замежных спраў |
| 8. | Пінзенік Віктар Міхайлавіч | 4,84 | 3,41 | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 9. | Пуставойценка Валерый Паўлавіч | 4,65 | 4,25 | Міністр Кабінета Міністраў |
| 10. | Радчанка Уладзімір Іванавіч | 4,64 | 4,37 | Старшыня Службы бяспекі Украіны |
| 11. | Дурдзінец Васіль Васільевіч | 4,50 | 4,75 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 12. | Кінах Анатоль Кірылавіч | 4,37 | 3,91 | Віцэ-прэм'ер |
| 13. | Галаваты Сяргей Пятровіч | 4,18 | 4,08 | Міністр юстыцыі |
| 14. | Сіманенка Пётр Мікалаевіч | 4,11 | 4,00 | Лідэр кампартыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 15. | Краўчанка Юрый Фёдаравіч | 3,87 | 4,14 | Міністр унутраных спраў |
| 16. | Краўчук Леанід Макаравіч | 3,84 | 3,02 | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 17. | Еханураў Юрый Іванавіч | 3,83 | 3,66 | Старшыня Фонду Дзяржмаёмасці |
| 18. | Асыка Сяргей Рыгоравіч | 3,80 | 3,32 | Міністр знешнеэканамічных сувязей і гандлю |
| 19. | Гецьман Вадзім Пятровіч | 3,74 | 2,80 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Незалежныя» |
| 20. | Марчук Яўген Кірылавіч | 3,64 | 3,36 | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 21-22. | Курас Іван Фёдаравіч | 3,61 | 3,05 | Віцэ-прэм'ер |
| 21-22. | Амельчанка Аляксандр Аляксандравіч | 3,61 | 2,68 | Кіраўнік дзяржадміністрацыі Кіева |
| 23. | Чарнавіл Вячаслаў Максімавіч | 3,55 | 3,77 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Народнага руху |
| 24. | Супрунюк Яўген Уладзіміравіч | 3,54 | 2,81 | Старшыня Вярхоўнага Савета Аўтаномнай Рэспублікі Крым |
| 25. | Гурвіц Эдуард Іосіфавіч | 3,40 | 2,82 | Мэр Адэсы, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 26. | Сірата Міхаіл Дзмітрыевіч | 3,37 | 3,32 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Цэнтр» |
| 27. | Ткачэнка Аляксандр Мікалаевіч | 3,36 | 3,94 | Намеснік Старшыні Вярхоўнай Рады |
| 28. | Кулік Зіновій Уладзіміравіч | 3,33 | 3,11 | Старшыня Дзяржкамітэта па тэле- і радыёвяшчанню |
| 29. | Шчэрбань Уладзімір Пятровіч | 3,31 | 3,91 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Ліберальнай партыі |
| 30. | Дзёмін Алег Аляксеевіч | 3,21 | 3,06 | Намеснік Старшыні Вярхоўнай Рады, кіраўнік адміністрацыі Харкаўскай вобласці |
| 31. | Шпек Раман Васільевіч | 3,18 | 3,57 | Старшыня Нацыянальнага агенцтва па рэканструкцыі і развіццю, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 32-33. | Варсінаў Рыгор Цімафеевіч | 3,16 | 3,48 | Генеральны пракурор |
| 32-33. | Тарасюк Барыс Іванавіч | 3,16 | 2,63 | Пасол Украіны ў краінах Бенілюкса і ў ЕС |
| 34. | Уладзімір | 3,14 | 3,40 | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны (УПЦ Маскоўскага патрыярхату) |
| 35. | Кузьмук Аляксандр Іванавіч | 3,09 | 3,07 | Міністр абароны |
| 36-37. | Джамілеў Мустафа | 3,04 | 2,40 | Старшыня медліса крымска-татарскага народа |
| 36-37. | Філарэт | 3,04 | 2,68 | Патрыярх Кіеўскі і ўсяе Украіны—Русі (УПЦ Кіеўскага патрыярхату) |
| 38. | Емец Аляксандр Іванавіч | 2,96 | 3,33 | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 39. | Суслаў Віктар Іванавіч | 2,95 | 2,50 | Старшыня Камісіі Вярхоўнай Рады па пытаннях фінансаў і банкаўскай дзейнасці |
| 40. | Мацвіенка Анатоль Сяргеевіч | 2,91 | 3,14 | Лідэр Народна-дэмакратычнай партыі, кіраўнік адміністрацыі Вінніцкай вобласці |
| 41-42. | Дземідзенка Аркадзь Фёдаравіч | 2,90 | 2,45 | Прэм'ер-міністр Аўтаномнай Рэспублікі Крым |
| 41-42. | Кушнароў Яўген Пятровіч | 2,90 | 2,63 | Мэр Харкава |
| 43. | Ланавой Уладзімір Цімафеевіч | 2,86 | 2,28 | Саветнік Прэзідэнта Украіны па пытаннях эканамічнай палітыкі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 44. | Чубараў Рафат | 2,84 | 2,48 | Адзін з лідэраў крымскіх татараў, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Крыма |
| 45. | Стратовіч Уладзімір Мікалаевіч | 2,83 | 2,91 | Старшыня Камісіі Вярхоўнай Рады па пытаннях прававой палітыкі і судова-прававой рэформы |
| 46-47. | Зубец Міхаіл Васільевіч | 2,78 | — | Віцэ-прэм'ер |
| 46-47. | Алейнік Барыс Ільіч | 2,78 | 2,75 | Старшыня Камісіі Вярхоўнай Рады па замежных справах і сувязях з СНД |
| 48. | Крылоў Міхаіл Аляксандравіч | 2,73 | - | Лідэр данецкага стачкома |
| 49. | Літвін Уладзімір Міхайлавіч | 3,70 | 2,31 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 50. | Еўтухоў Васіль Іванавіч | 2,69 | 2,50 | Дэпутат Вярхоўнай Рады |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», КЦ ПДК, 1996 г.**

**Служба вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» і «Независимая газета» (Масква) сумесна з фірмай «Скарына» (Мінск) і Цэнтрам палітычных даследаванняў і канфліксталогіі (Кіеў) працягваюць вызначэнне 50 найбольш уплывовых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны па выніках штомесячнага апытання экспертаў.**

**У прадстаўленых табліцах 1, 2 і 3 указаны: рангавае становішча вядучых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны (з 1-га па 50-е) і сярэдні бал, які фіксуе ступень уплыву кожнага на ўнутраную і знешнюю палітыку іх краін у мінулым месяцы. Для ацэнкі меры ўплывовасці выкарыстоўвалася 10 бальная шкала, дзе «10» азначае максімальную, а «1» — мінімальную ступень уздзеяння. Калі палітык, адпаведна, на думку экспертаў, наогул не аказаў ніякага ўплыву на палітычную сітуацыю ў сваёй краіне, то яму выстаўлялася нулявая ацэнка.**

**У Беларусі апытанне праводзілася з 27 па 31 жніўня, у Расіі — з 22 па 27, а на Украіне — з 27 жніўня па 3 верасня.**

**Спіс 50 вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь кожны месяц публікуецца ў газеце «Имя», а Расіі і Украіны — у «Независимой газете» (Масква). На аснове гэтых публікацый спецыяльна для «Звязды» рыхтуецца падагульняючы матэрыял аб палітыках трох брацкіх славянскіх дзяржаў.**

У Расіі, паводле ацэнак экспертаў, палітычная ўплывовасць Барыса Ельцына ў жніўні рэзка знізілася — амаль на паўтара бала, што фармальна лёгка растлумачыць яго выхадам у чарговы водпуск і адпачынкам пасля перамогі. Зразумела, што ў адсутнасць кіраўніка дзяржавы вырасла роля прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна, які перамясціўся на 1-е месца. У гэтай сувязі дарэчы напомніць, што менавіта ў мінулым месяцы Чарнамырдзіну ўдалося захаваць за сабой пасаду кіраўніка расійскага ўрада. У тройку вядучых палітыкаў увайшоў таксама сакратар Савета бяспекі Аляксандр Лебедзь, які займаў у ліпені 5-е месца. Павышэнню яго папулярнасці ў асноўным садзейнічала «чаўночная дыпламатыя», звязаная са спробай аднавіць мір у Чачні. Чацвёртым аказаўся Анатоль Чубайс, і ўсе астатнія палітыкі ўжо рэзка адстаюць ад гэтай чацвёркі па ацэнках, якія выставілі эксперты.

Чачэнскія падзеі апошніх дзён прыметна адбіліся на палітычным жыцці краіны. Адным з найбольш яркіх вынікаў жнівеньскай экспертызы з'яўляецца тое, што ў дзесятку вядучых расійскіх палітыкаў упершыню ўвайшлі пераемнік Джахара Дудаева Зелімхан Яндарбіеў (7-е месца) і начальнік штаба сепаратысцкіх узброеных фарміраванняў Аслан Масхадаў (9-е месца). Дзеля справядлівасці трэба дадаць, што кіраўнік Чачэнскай Рэспублікі Доку Заўгаеў (19-е месца) таксама ўзмацніў свае пазіцыі і трапіў у першую дваццатку.

У Рэспубліцы Беларусь у жніўні, на думку экспертаў, прыметна ўзрос палітычны ўплыў Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі на сітуацыю ў краіне. Ён ужо зрабіў першы ход у распачатым канфлікце выканаўчай і заканадаўчай уладаў і вынес на рэферэндум свой праект новай рэдакцыі Канстытуцыі, дзе прапануецца рэзка павялічыць паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы. Другое месца ў спісе вядучых палітыкаў з чэрвеня трывала займае старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. У мінулым месяцы Прэзідэнт і кіраўнік парламента фактычна сталі першымі палітычнымі праціўнікамі, а ў антыпрэзідэнцкай кааліцыі істотна ўзмацніла свае пазіцыі Партыя камуністаў Беларусі. Усім гэтым, відаць, можна растлумачыць істотны рост палітычнага ўплыву першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, сакратара ЦК ПКБ Васіля Новікава, рэйтынг якога вырас адразу на тры балы. У поўнай адпаведнасці з унутранай логікай распачатага палітычнага канфлікту чацвёртае і пятае месца сярод вядучых палітыкаў жніўня падзялілі: кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч і яго намеснік па ідэалогіі Уладзімір Замяталін. Атрымаўшы ў ЗША афіцыйны статус палітычнага эмігранта, лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазняк зноў прыцягнуў да сябе ўсеагульную ўвагу і ўзняўся з дзевятнаццатага месца на шостае. Амерыканская адміністрацыя сваім рашэннем у адносінах да Зянона Пазняка і Сяргея Навумчыка стварыла юрыдычны прэцэдэнт, які паклаў пачатак «чацвёртай хвалі» палітычнай эміграцыі былога СССР.

У жніўні з «вышэйшай лігі» беларускай палітыкі выбылі члены фракцый «Грамадзянскае дзеянне» і «Саюз працы» Станіслаў Шушкевіч, Віктар Ганчар, Павел Данейка, Людміла Гразнова і Павел Знавец, віцэ-прэм'ер Васіль Далгалёў і былы віцэ-прэм'ер Леанід Сініцын, а таксама міністр прадпрымальніцтва і інвестыцый Аляксандр Сазонаў і віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа. Гэтыя вакантныя месцы ў «клубе 50-ці» занялі: першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Новікаў (3-е месца), віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг (23-24-е), лідэр парламенцкай фракцыі аграрыяў Мечыслаў Гіруць (29-30-е), адзін з лідэраў сацыял-дэмакратаў Георгій Таразевіч (35-е), міністр абароны Леанід Мальцаў (37-е), міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Лявонаў (38-е), першы намеснік міністра замежных спраў Валерый Цапкала (43-44-е), сакратар ЦК Партыі камуністаў Віктар Чыкін (45-е) (ужо экс-сакратар ЦК ПКБ. — «Звязда») і старшыня партыі жанчын «Надзея» Валянціна Палевікова (46-е). Сярод гэтых палітыкаў трое ўвайшлі ў «клуб 50-ці» ўпершыню (Таразевіч, Чыкін і Палевікова).

Усяго ў спіс вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь ў жніўні ўвайшлі 13 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, 10 кіраўнікоў прэзідэнцкіх структур, 11 членаў урада і 16 прадстаўнікоў іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. У ліпені гэтыя органы ўлады ў «клубе 50-ці» прадстаўлялі адпаведна 16, 10, 10 і 14 палітыкаў. Нейкае паслабленне пазіцый Вярхоўнага Савета, відаць, можна растлумачыць летнімі парламенцкімі канікуламі. У жніўні прыметна ўзмацніўся палітычны ўплыў лідэраў партый, якія ўдзельнічаюць у рабоце «круглага стала».

Як і ў мінулым месяцы, узначальваюць жнівеньскі спіс найбольш уплывовых палітыкаў Украіны прэзідэнт Леанід Кучма і прэм'ер-міністр Павел Лазарэнка. Іх сярэднія балы адрозніваюцца ўсяго на 0,01. Толькі на гэты раз наперад выйшаў прэзідэнт, вярнуўшыся на сваё «законнае» першае месца, якое ў ліпені (у час свайго водпуску) ён уступіў Паўлу Лазарэнку. (Напомнім, што апошні ў ліпені ледзь не стаў ахвярай замаху.) Кіраўнік парламента Аляксандр Мароз, які ў чэрвені займаў другі радок у рэйтынгу, у ліпені-жніўні прыметна адстаў ад гэтых двух палітыкаў, што натуральна — два месяцы парламент адпачываў. Нядзіўна, што і многія дэпутаты панізілі свой рэйтынг: з 9 чалавек, якія выбылі ў жніўні са спіса 50 найбольш уплывовых палітыкаў, шасцёра — дэпутаты парламента.

**Аляксандр КІНСБУРСКІ, «Vox populi»;**
**Міхаіл ПЕТРАЧОЎ, «Независимая газета»**

# ЁН ПРАСІЎ ДЛЯ СЯБЕ «ВЫШКУ».

пагутарылі, разышліся. Назаўтра раніцай, прыгатаваўшы сняданак, ён пахмяліўся паўбутэлькай спіртнога з напарнікам, які жыў у яго пакоі. Паўбутэлькі пакінулі на акне і ўжо сабраліся выйсці ў горад, як заявіўся Андрэй Каханоўскі. Ён жыў таксама ў інтэрнаце, раней працаваў у адным з вытворчых падраздзяленняў трэста і ўжо год бадзяўся без справы. Пра яго тут ведалі ўсё: і тое, што з чатырох гадоў выхоўваўся ў бабулі і дзядулі, бо бацька памёр, а маці кінула яго, і тое, што пасля старыя здалі яго ў дзіцячы дом, дзе ён вырас і пасля заканчэння школы вучыўся ў Гомелі, за ўчыненне нейкага злачынства трапіў у калонію, працаваў на «Гомсельмашы», а потым перабраўся ў родны горад.

Андрэя не любілі і не паважалі ні на рабоце, ні ў інтэрнаце. Быў ён хлопцам лянівым і скандальным, асабліва калі глыне гарэлкі. Тады ён без дай прычыны прыдзіраўся і да жанчын, і да мужчын, да ўсіх, хто сустракаўся на яго шляху.

— Міхайлавіч, прывітанне! — яшчэ з парога крыкнуў ён і кінуўся ў абдымкі. — Даўно не бачыліся. І сустрэчу трэба абмыць. Ведаю, што ў цябе ёсць, — ён кінуў позірк на бутэльку, што стаяла на акне.

Вараб'ёў быў па ўзросту ўдвая старэйшы за Андрэя (пяцьдзесят шэсць і дваццаць восем гадоў адпаведна — бацька і сын), і ён на імгненне падумаў, ці варта выпіваць з ім, бо той яшчэ што-небудзь і выкінуць можа, калі перабярэ. Ды вырашыў: дап'юць бутэльку ўтраіх, не ап'янеюць. Адмовіш — у катэгорыю скнараў трапіць можаш. Таму і сказаў:

— Сядай, госцем будзеш.

Выпілі, закусілі. Андрэй, задаволены пачастункам, пайшоў. Гадзіны праз тры, калі Вараб'ёў з напарнікам гасцявалі ў суседнім пакоі, ён заявіўся туды. З сякерай на плячы.

— Дай на бутэльку, — не папрасіў, а запатрабаваў у гаспадара пакоя.

— Ты ўжо і так недзе налупцаваўся, — адказаў той.

Андрэй бухнуў сякерай па спінцы крэсла стула. Тое рассыпалася.

— Не бойся, пазыч, аддам доўг, — працягваў Каханоўскі.

— У цябе ж грошай няма, — быў адказ.

Зноў узмах сякерай — і яшчэ адно крэсла развалілася. Напарнік Вараб'ёва кінуўся да Андрэя, адабраў сякеру. Той, пакрыўдзіўшыся, выйшаў з пакоя, але праз нейкі час зноў зайшоў і папрасіў вярнуць сякеру, бо сваю памылку асэнсаваў. Яму паверылі, а гаспадар пакоя даў напарніку Вараб'ёва пяцьдзесят тысяч «зайцоў» на гарэлку. У калідоры Каханоўскі вырваў грошы з яго рук і прынёс у свой пакой дзве бутэлькі гарэлкі. Адну тут жа апаражнілі ўтраіх — Андрэй, Вараб'ёў і яго напарнік, а другую Каханоўскі забраў сабе і пачаў пытацца ў іх: каму б гэта адсекчы галаву сёння, у слаўную гадавіну Перамогі?

Жарты жартамі, аднак, калі яны зыходзяць ад п'янага, тут асцерагацца трэба. Таму Вараб'ёў і яго напарнік хутка адвязаліся ад Каханоўскага і пайшлі па сваіх справах. Андрэй жа да саменькай цемнаты з сякерай хадзіў па інтэрнату, раз-пораз пужаючы яго жыхароў. Заявіўшыся гадзін у дзесяць вечара ў пакой інваліда Фёдара Вараб'я, ён патрабаваў у яго грошы і ўдарыў сякерай па крэсле. Затым на калідоры сустрэў Валянціна Вараб'ёва, кісла ўсміхнуўся і прапанаваў:

— Давай, Міхайлавіч, я адсяку галаву табе, — і лёгка ўдарыў яго абухом па шыі.

Кроў закіпела ў жылах былога «зэка». Ён намерыўся мёртвай хваткай учапіцца ў горла Каханоўскага, разарваць яго на часткі. Ды неймаверным намаганнем волі прымусіў сябе астыць: Андрэй — малады, здаровы, з сякерай, а ён — не роўня яму. Ды і ножыка, якім ён па-майстэрску арудаваць можа, няма ў кішэні. «На гэты раз дарую шчанюку, але калі ён яшчэ раз...» — падумаў ён, крута развярнуўся і, сціснуўшы зубы, вярнуўся ў пакой. Узяў кухонны нож і паклаў сабе пад падушку. Заснуў, і яму снілася сякера Каханоўскага. Увесь у поце прачнуўся а першай гадзіне: захацелася ў туалет. Апрануўся і ў заднюю кішэню штаноў паклаў нож. На ўсякі выпадак. Па калідоры ў майцы і спартыўных штанах снаўдаўся Каханоўскі з сякерай у руцэ. Заўважыўшы Вараб'ёва, ён накіраваўся да яго, хістаючыся ад сцяны да сцяны. І чаму ніхто не адабраў у яго сякеру ці не выклікаў міліцыю, падумаў Валянцін і тут жа пачуў:

— Каму б гэта адсекчы галаву?

Услед за гэтым пачуўся звон шкла: Андрэй ударыў сякерай па акну і разбіў раму. У туалеце Вараб'ёў затрымаўся больш чым трэба: чакаў, пакуль Каханоўскі адправіцца спаць. Не дачакаўся, выйшаў. І зноў голас п'янага Андрэя:

— Каму б гэта адсекчы галаву? Можа табе, Міхайлавіч?

Уся лютасць, раз'юшанасць, злосць, што на працягу дваццацічатырохгадовай турэмнай ізаляцыі сфарміраваліся, развіліся і перапаўнялі характар і без таго жорсткага і неўтаймаванага злачынцы і які ўсё ж апошнія восем гадоў знаходжання на волі імкнуўся пагасіць у сабе ўсё гэта, раптам ірванула з яго вонкі, нібы смуроднае полымя з вулкана, не паддаючыся ўжо ніякаму кантролю. І ён, забыўшыся аб усім на свеце, да таго ж падагрэты «зялёным змеем», ашчэрыўся ікластым ваўком, працадзіўшы праз зубы: «Атрымлівай, казёл!», знізу ўверх, з працягам ударыў нажом Каханоўскага ў жывот. Той хапануў ротам паветра, выпусціў сякеру і, заікаючыся, прамовіў:

— Што... ты... зрабіў.., Міха...

Не дачакаўшыся канца фразы, Вараб'ёў ударыў яго яшчэ раз — вышэй, у грудзі, пад сэрца. Андрэй сутаргава, дзвюма рукамі ўчапіўся ў ручку нажа, які завяз там, і, спрабуючы вышмаргнуць яго, шугануў па лесвіцы ўніз. Ён выскачыў на вуліцу і бразнуўся вобзем у дзесятку метраў ад інтэрната. А Вараб'ёў моўчкі зайшоў у пакой, апрануўся і пасунуўся да сваёй сужыцелькі.

З яго вачэй градам сыпаліся слёзы...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*г. Рэчыца.*

# РАЗВАЖЫЛІ ІНАКШ...

ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

# ...У СТАЛІЦЫ ДЭФІЦЫТАМ СТАЛА ГАРЭЛКА

МАГЧЫМА, ускосным пацвярджэннем такіх размоў стала інфармацыя аб прайшоўшай у Міністэрстве гандлю краіны нарадзе па пытанню пастаўкі дадатковых рэсурсаў гарэлкі прадпрыемствам рознічнага гандлю Мінска. У прыватнасці, была дасягнута дамоўленасць аб дадатковым накіраванні ў гандаль ад розных пастаўшчыкоў краіны гарэлкі ў аб'ёме 12 тысяч дэкалітраў у суткі.

У інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» намеснік міністра гандлю Міхаіл Еўтухоўскі абверг чуткі аб нібыта існуючым дэфіцыце гарэлкі ў беларускай сталіцы. Разам з тым ён зазначыў, што ў першым квартале бягучага года ў краіне адзначалася слабая рэалізацыя вінна-гарэлачных вырабаў айчыннай вытворчасці (напрыклад, за 4 месяцы ўзровень продажу склаў 48 працэнтаў да адпаведнага перыяду мінулага года), у выніку чаго склады былі літаральна забіты гэтай прадукцыяй. Але пасля прыняцця мераў па абароне айчыннага рынку, калі была ўведзена гандлёвая надбаўка на замежную алкагольную прадукцыю ў памеры да 50 працэнтаў на прадпрыемствах гандлю ўсіх формаў уласнасці, рэалізацыя айчыннай гарэлкі павялічылася. Асабліва ўзрос попыт на яе ў ліпені і жніўні, калі, па словах Міхаіла Еўтухоўскага, насельніцтва з-за недастатковай інфармаванасці ўспрыняло ўвядзенне пастановай Кабінета Міністраў з 1 жніўня спецыяльнай маркіроўкі на алкагольных вырабах (якая пацвярджала б легальнасць іх вытворчасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь) як крок да чакаемага павелічэння цэн на гарэлку. Як зазначыў намеснік міністра, найбольшы ажыятаж узнік у гэты час у Мінску, што прывяло да павелічэння рэалізацыі гарэлкі. Калі да гэтага ў горадзе прадавалі ў сярэднім па 6—8 тысяч дэкалітраў гарэлкі ў дзень, дык потым рэалізацыя ўзрасла да 12—14 тысяч дэкалітраў у дзень. Каб сапраўды пазбегнуць дэфіцыту, у Мінск пачалі накіроўваць гэтую прадукцыю з іншых рэгіёнаў Беларусі. Але з 14 верасня мінскі завод «Крышталь» (дакладней, адна лінія па разліву белай гарэлкі) быў зачынены на штогадовы планавы прафілактычны рамонт тэрмінам на месяц. У сувязі з гэтым, каб не стварыць перабояў у гандлі гарэлкай і забяспечыць патрэбы насельніцтва, было прынята рашэнне аб забеспячэнні сталіцы іншымі заводамі краіны.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ВІНШАВАННІ

*Дарагая наша мамачка і бабуля **Галіна Баляславаўна Радзько,** віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Муж, дзеці, унукі з в. Рыжань.**

*Віншуем з юбілеем дарагога мужа і тату **Дзмітрыя Андрэевіча Чарненку.** Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, дабрабыту і ўсяго самага найлепшага.*

**Жонка, дачка, г. Жодзіна.**

*Віншуем дарагога, каханага мужа і тату **Уладзіміра Яўгенавіча Волкава** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

**Жонка, сыны і дачка, в. Кірава.**

*Віншуем з днём нараджэння дарагую і любімую мамачку **Наталлю Васільеўну Дубовік** з в. Слабада. Жадаем шчасця мора, каб ты не ведала гора, каб не хварэла і зусім не старэла.*

**Дочкі Таня і Аня.**



## ФОНДЫ КУЛЬТУРЫ ДЗЯРЖАЎ-СУСЕДЗЯЎ ПАШЫРАЮЦЬ ДЗЕЛАВЫЯ СУВЯЗІ

Кіраўнікі фондаў культуры Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі і Эстоніі сустрэліся ў Гродне і абмеркавалі шляхі творчых кантактаў. У заключаным пагадненні яны выказаліся за тое, каб своечасова інфармаваць адзін аднаго аб важнейшых мерапрыемствах, якія праводзяцца фондамі, садзейнічаць — кожны на тэрыторыі сваёй дзяржавы — стварэнню аднолькавых умоў для развіцця культуры нацыянальных меншасцей. Бакі паабяцалі зрабіць усё магчымае дзеля таго, каб культурныя каштоўнасці, нелегальна вывезеныя з тэрыторыі той ці іншай дзяржавы, былі вернуты на падставе адпаведных нормаў міжнароднага права. «Мы закліканы беражліва захоўваць усе адметнасці нашых культур, тым самым узмацняючы нашу цікавасць адзін да аднаго», — заявілі кіраўнікі фондаў. Сваю наступную сустрэчу яны маюць намер правесці ў маі-чэрвені наступнага года ў Рызе.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**



## ВІНШАВАННІ

*Дарагія тата і мама, **Іван Антонавіч і Галіна Іванаўна Макоўчык.** Віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, дабрабыту ў сям'і і доўгіх гадоў жыцця.*

**Сын Віктар, нявестка Жанна і ўнук Саша з в. Малеч.**

*Дарагую матулю і бабулю **Стэфаніду Міхайлаўну Кароль** віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця.*

**Дзеці, унукі, праўнукі з Фаніпаля.**

*Віншуем з днём нараджэння любага мужа і тату **Вячаслава Крымоўскага.** Жадаем радасці, шчасця, дабрабыту.*

**Крымоўскія Валя, Саша, Сярожа з пас. Чысць.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 10 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Навіны. **8.15** Аўтапарк. **8.30** «Рамансы». Фільм-канцэрт. **8.50** «Гэй, гуляю я!» Дак. фільм. **9.05** Праграма мультфільмаў. **9.35** Каралеўскае паляванне. **10.15** «Па шляхах «Слова аб палку Ігаравым». **10.45** Творцы. Міжнародны жаночы форум. **11.45** Канцэртны сезон. Фіеста гітарыстаў. **15.00** Навіны. **15.10** «Прыгоды капітана Урунгеля». Мультфільм. 5—9 серыі. **16.00** Футбол. Адборачны матч маладзёжнага чэмпіянату Еўропы. Зборная Беларусі—зборная Латвіі. **17.55** Арсенал. Праграма для вайскоўцаў. **18.25** Музычны антракт. **18.40** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Рэферэндум: шчырая размова. **19.35** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.15** «Жанчына ў белым». Маст. фільм. 2-я серыя. **23.20** «Оскар». Тэлегульня. «Крок». Праграма для моладзі. **0.20** Навіны.

**ГРТ**

**10.35** Смак. **11.00** Навіны. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету». **11.55** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» 3-я серыя. **13.10** Шчаслівы выпадак. **14.00** Навіны. **14.20** «Горад сабак». **14.45** Лего-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** Рок-урок. **16.30** «Вакол свету». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.05** Гадзіна пік. **18.30** Іграй, гармонік, любы! **19.00** Э. Радзінскі. «Загадкі Сталіна». Частка 4-я. **19.45** Спакойнай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Маст. фільм «Апошняе метро». **23.05** Навіны. **23.15** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава. **0.10** Серыял «Кафэ кашмараў». 4-я серыя.

**Расія**

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20** Ранішні экспрэс-2. **7.50** Экспавеснік. **8.00** Рэтра-шлягер. **8.25** Дарагая рэдакцыя... **8.55** «Санта-Барбара». **9.50, 23.25** Тавары — поштай. **10.20—11.45** «А ці быў Кароцін?» Маст. фільм. 1-я серыя. **16.20** Блакнот. **16.35** «Чэленджэрс». **17.00** Залежыць ад цябе. **17.20** Экспавеснік. **17.30** «Успаміны пра Лісабон». VIII Міжнародны конкурс маладых музыкантаў Еўрабачання. **18.00** Новае пятае кола. **18.40** «Цёмная» для А.М. Якаўлева. **19.30** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **20.30** Рэк-тайм. **20.45** Лато-мільён. **20.55** Надвор'е на заўтра. **21.00** «Салдаты фартуны». Маст. фільм (ЗША). **22.50** «Мімалётнасці». Мультфільм для дарослых. **23.35** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.50** Хто на што здатны. **24.00—0.26** Не спі і глядзі.

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55, 0.10** Інфарм ТБ. **12.10** «Першае каханне». Серыял. **13.00** Тэрмін адказу — сёння. **13.20** Парады садаводам. **13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **14.10** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **15.00** «Артысты джазавыя». Тэлефільм. **16.10** Парадоксы гісторыі. «Нішто нельга змяніць у тайным жыцці цароў». **16.40** «Інспектар Гэджэт». Мультсерыял. **17.05** Дзіцячае ТБ. «Казка за казкай». **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** Асабістая справа. Генадзь Арлоў. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **22.10** «Дом кіно: Аляксей Пятрэнка, Уладзімір Гасцюхін, Горан Паскалевіч, Васіль Ланавой і іншыя. **22.50** «Тэлекампакт». Музычнае шоу. **23.30— 0.17** Хакей. Чэмпіянат Расіі. СКА — «Спартак» (Масква).

**НТБ**

**7.15** «Чорны васьміног». Серыял (Аргенціна). **8.00** Д.ф. «Военачальнікі. Генерал арміі Дуайт Эйзенхаўэр». **9.15** «Начны госць». Маст. фільм. **10.10** Маст. фільм «Цудоўныя гады» (ЗША) **11.15** Маст. фільм «Кафэ НЛА». **12.45** Лацінаманія. **13.15** «Злачынца міжволі». Міні-серыял (Іспанія). 2-я серыя.

**Расійскія універсітэты**

**14.50** Сергій Раданежскі. Фільм 3-і «Кулікоўская бітва». **15.20** «Тайна прыгажосці». Дак. фільм. **15.35** Ю.М. Лотман. Размовы пра рускую культуру. Перадача 10-я. **16.10** «Балет Санкт-Пецярбурга». І. Стравінскі. «Апалон». **16.40** Навіны.

**НТБ**

**17.00** Мультсерыял. **17.30** Жаночыя гісторыі. «Лефтэрыс Дымакапулас, пакарыцель жаночых сэрцаў». **18.00, 21.00, 23.00** Сёння. **18.35** Герой дня. **19.00** Маст. фільм «Уцёкі з Нью-Йорка» (ЗША). **20.45** Доктар Вугал. **21.35** «Злачынца міжволі». **22.30** Часінка. **23.20** Маст. фільм «Горад на продаж» (Францыя).



## ОФИЦИАЛЬНАЯ ТАБЛИЦА

**сорок шестого тиража выигрышей по выигрышным вкладам, состоявшегося 4 октября 1996 года в г. Жодино**

Выигрыши выпали на следующие номера счетов по выигрышным вкладам во всех учреждениях Акционерного сберегательного банка «Беларусбанк».

| Номера счетов | Размер выигрыша в процентах к средней сумме остатка вклада | Номера счетов | Размер выигрыша в процентах к средней сумме остатка вклада |
|---|---|---|---|
| А 21 | Сто пятьдесят | А 544 | Сто пятьдесят |
| А 61 | Сто пятьдесят | А 589 | Сто пятьдесят |
| А 95 | Сто пятьдесят | А 615 | Шестьсот |
| А 132 | Сто пятьдесят | А 668 | Сто пятьдесят |
| А 191 | Сто пятьдесят | А 693 | Сто пятьдесят |
| А 223 | Сто пятьдесят | А 723 | Сто пятьдесят |
| А 259 | Сто пятьдесят | А 774 | Сто пятьдесят |
| А 288 | Шестьсот | А 833 | Триста |
| А 330 | Сто пятьдесят | А 874 | Одна тысяча двести |
| А 361 | Сто пятьдесят | А 894 | Сто пятьдесят |
| А 417 | Триста | А 928 | Сто пятьдесят |
| А 455 | Сто пятьдесят | А 965 | Сто пятьдесят |
| А 491 | Сто пятьдесят | | |

В учреждениях Сберегательного банка, где число счетов более одной тысячи, во всех последующих тысячах выиграли те же номера, что и в первой тысяче, т. е. за №№ 1021, 1061, 2021, 2061 и т. д.

**Председатель комиссии:** **КАШЕВСКИЙ Валерий Михайлович, председатель горисполкома**

**Ответственный секретарь:** **ЯСИНСКАЯ Татьяна Александровна, начальник отдела вкладных операций АСБ «Беларусбанк»**

## *Post Factum*

### Гэты дзень у гісторыі

**10 кастрычніка 1577 года** гарады Магілёў, Мазыр і мястэчка Ула (цяпер гарадскі пасёлак у Віцебскай вобласці) атрымалі Магдэбургскае права.

**10 кастрычніка 1684 года** нарадзіўся Антуан Вато, славуты французскі жывапісец, яго творчасць вызначалася дакладнай перадачай самых тонкіх душэўных настрояў.

У гэты дзень **у 1813 годзе** нарадзіўся італьянскі кампазітар Джузепе Вердзі. Выступаў як дырыжор, арганіст, піяніст. Яго оперы «Рыгалета», «Трубадур», «Травіята», «Баль-маскарад», «Дон Карлас», «Аіда» і іншыя вызначаюцца тэатральнасцю, арганічнай сувяззю музыкі і дзеяння. Яны з поспехам ідуць на ўсіх оперных сцэнах свету, у тым ліку і ў Беларускім тэатры оперы і балета.

**10 кастрычніка 1861 года** нарадзіўся Фрыцьёф Нансен, нарвежскі даследчык Арктыкі. У 1888 годзе першым перасек Грэнландыю на лыжах. У 1920—21 гадах з'яўляўся вярхоўным камісарам Лігі нацый па справах ваеннапалонных, адзін з арганізатараў дапамогі галадаючым Паволжа, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру ў 1922 годзе.

### Народны каляндар

Сёння імяніны **Савасцея**. У гэты дзень пчаляры хавалі вуллі ў імшанікі.

У беларусаў-католікаў — **Францыск**. *«На святога Францішка шукае зярнят у полі мышка»*, сцвярджае прымаўка, падкрэсліваючы тым самым, што ўраджай ужо даўно сабраны і палеткі апусцелі.

### А яшчэ быў выпадак

***«Мой падабаронны ўчыніў гэта толькі таму, — адвакат дастаў насоўку і прамакнуў сухія вочы, — толькі таму, што вельмі хацеў есці. Яму трэба шмат ежы...»***

Адкават, несумненна, меў рацыю: 225-кілаграмоваму амерыканцу Артуру Юнкенсу сапраўды патрэбна шмат ежы. І рознай: таўстун Артур не проста абжора, але яшчэ і гурман. А грошы ў яго закончыліся. Вось ён і падрабіў чэк на 11.330 долараў. Суддзя акругі Седжвік (штат Канзас), прызнаўшы, што падсудны «з-за некаторых асабістых прычын» не мае магчымасці ўладкавацца на работу, а значыць, не можа кампенсаваць нанесеную шкоду, прыгаварыў яго да турэмнага зняволення ўмоўна. «Заставайся на свабодзе, але абавязкова пачынай худзець, — сказаў ён Юнкінсу. — Я буду правяраць».

Таўстун Артур падзякаваў суддзі, аднак не толькі не падумаў выконваць яго наказ, але за кароткі час набраў яшчэ 20 кілаграмаў вагі. Даведаўшыся аб гэтым, раззлаваны суддзя распарадзіўся тут жа адправіць Юнкінса за краты на тры месяцы, каб пасядзеў на турэмнай дыеце.

### Цікава

***Многія пісьменнікі, мастакі, паэты, акрамя сваёй асноўнай прафесіі, зараблялі на хлеб і іншай работай — працавалі на розныя разведвальныя службы.***

Так, славуты мастак Рубенс быў адразу трайным агентам. Сакрэтнымі агентамі разведак з'яўляліся Даніэль Дэфо, аўтар «Рабінзона Круза» і стваральнік бессмяротнага «Фігара» — Бамаршэ. У абодвух жыццё было падобнае на захапляючы авантурны раман. Дэфо стварыў цэлую сетку агентаў-асведамляльнікаў з цэнтрам у Шатландыі, якія збіралі сакрэтную інфармацыю на вядомых тагачасных палітыкаў. Сакрэтнымі агентамі англійскай разведкі былі: лаўрэат Нобелеўскай прэміі Джон Голсуорсі, аўтар «Сагі аб Фарсайтах», Герберт Уэлс і Конан Дойл. У гады другой сусветнай вайны супрацоўнікамі сакрэтнай службы з'яўляліся Грэм Грын і Ян Флемінг (аўтар серыяла пра Джэймса Бонда).

А вось калі НКУС паспрабавала завербаваць Міхаіла Зошчанку, той адказаў ва ўласцівым яму стылі: «Недастойны. Маральна няўстойлівы. Захапляюся жанчынамі...»

### Расказваюць, што...

Да доктара з'явіўся пацыент і паскардзіўся на глыбокую меланхолію. Уважліва абследаваўшы яго, урач не выявіў у яго ніякіх арганічных адхіленняў ад нормы і палічыў магчымым немедыкаментознае лячэнне. Ён сказаў:

— Я прапісваю вам добры гумар. Паколькі пасля пастановы ЦК па ідэалагічных пытаннях вы нідзе не знойдзеце гэтую кнігу, дару яе вам. Гэта Зошчанка — чытайце па два апавяданні раніцай і вечарам на працягу тыдня.

— Не дапаможа. Я і ёсць Зошчанка.

### Анекдот

*Двое размаўляюць у электрычцы:*

*— Учора пасля спектакля публіка выклікала мяне на сцэну разоў шэсць!*

*— Падумаеш! Мяне кожны раз выклікаюць разоў па сто, а я і не рэагую.*

*— Вы таксама акцёр?*

*— Не. Я — афіцыянт.*


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

Тыраж 94.430. Індэкс 63850.

Зак. № 6573.

Выходзіць 250 разоў на год.

Нумар падпісаны ў 20.15.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12